ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 8 (2410) 23 лютага 1995 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 100 рублёў.

## ДЗЕ ШУКАЦЬ ПАРАТУНКУ?



# "СЁННЯ Ў НАС ПОЎНЫ РАЗБОЙ — І НА ВУЛІЦЫ, І Ў ЭКАНОМІЦЫ"

**З тым, што сёння эканоміка вызначае ўсё жыццё краіны, нават яе лёс, спрачацца не даводзіцца. Ад таго, ці здолее кранучча -- цяжка, пакутліва, але ж усё-такі кранучча з месца -- заржавелы механізм эканамічных рэформаў, залежыць не толькі матэрыяльны дабрабыт людзей, а ўвогуле магчымасць самога існавання дзяржавы Беларусь. Разам з тым існуе і адваротная сувязь паміж палітычным умацаваннем краіны і вырашэннем, здавалася б, чыста эканамічных праблем: вельмі ж цяжка спыніць інфляцыю, правесці рэформы, ажывіць вытворчасць, калі няма дакладнай сацыяльна-палітычнай канцэпцыі пабудовы грамадства. Менавіта гэта стала лейтматывам гутаркі нашага карэспандэнта з акадэмікам-сакратаром Акадэміі навук Беларусі, дырэктарам Інстытута эканомікі АН Беларусі Генадзем ЛЫЧОМ.**

*-- Генадзь Міхайлавіч, даволі часта даводзілася чуць, што ў эканоміцы мы коцімся і коцімся на нейкае "дно". Як, на ваш погляд, ці пабачылі мы ўжо гэтае "дно" эканамічнага крызісу, альбо не ўсе выпрабаванні яшчэ зведаны?*

-- Думаю, на жаль, што "дна" мы пакуль не дасягнулі. Хаця апошнім часам ад некаторых нашых эканамістаў, асабліва тых, хто блізка да ўрадавых структур, можна пачуць, што ў краіне пачалася стабілізацыя, ідзе рост вытворчасці -- называюць пяць, шэсць і сем працэнтаў у параўнанні з мінулым месяцам. Але я лічу, што гэтая стабілізацыя пакуль няўстойлівая, і больш за ўсё хвалюе тое, што ў нас не растуць інвестыцыі. Асноўныя фонды больш і больш старэюць, знос павялічваецца, а капітальныя ўкладанні з года ў год памяншаюцца. У асабліва ж цяжкім становішчы можа апынуцца сельская гаспадарка: яе "абдзіраюць, як ліпку", а ў грамадстве ствараецца такое ўражанне, што ўсе беды менавіта з-за сельскай гаспадаркі, якая нібыта паглынае велізарныя датацыі. Але давайце параўнаем рост цэн на розныя групы тавараў і тады ўбачым іншую карціну. Як сказаў адзін калгасны старшыня: калі мы ў студзені прадалі літр малака за 7 цэнтаў, то цяпер пасля апошняга павышэння цэн толькі за 4, бо неймаверна выраслі і нашы выдаткі на вытворчасць гэтага малака. Атрымліваецца так: спачатку дзяржава ўсё забярэ, а потым частку аддае і называе гэта датацыяй. Сельская гаспадарка цяпер у вельмі цяжкім становішчы, а гэта ж галіна, якая забяспечвае жыццё нацыі і дзяржавы.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## МАНАЛОГ МАСТАКА

# НЕ АДДАЦЬ – СТРАЦІЦЬ НАЗАЎСЁДЫ

**Мая гаворка з гродзенскім мастаком Уладзімірам ЦЕРАБУНОМ менш за ўсё нагадвала традыцыйнае інтэрв'ю, якое складаецца з пытанняў і адказаў. Хутчэй, гэта была размова, якая часам пераходзіла ў надта ж цікавы маналог мастака, які не хацелася перапыняць. У канцы сустрэчы Уладзімір Церабун сказаў словы, якія вынесены ў загаловак артыкула, бо яны найбольш дакладна вызначаюць асобу гэтага чалавека: "Хачу прыгадаць словы Руставелі, якія сталі для мяне эпіграфам усяго жыцця: "Усё, што ты аддаеш, -- належыць табе, усё, што ўтойваеш, -- страчана назаўсёды". Я пераконваўся ў гэтым шмат разоў, і не толькі ў мастацтве, але і ў чалавечых адносінах. І не трэба чакаць, што цябе адразу аддзячаць за тваё дабро. Рабі тое, што лічыш патрэбным, прыйдзе час, і ўсё вернецца да цябе". Ну, а зараз -- той самы маналог Майстра...**

-- Усё пачалося з роднага кута, са Смаргоні, дзе я нарадзіўся, дзе прайшло маё юнацтва, дзе ўпершыню далучыўся да прыгажосці. Я падкрэсліваю -- менавіта да прыгажосці, а не да выяўленчага мастацтва, таму што сёння я цалкам перакананы: мастак -- гэта не толькі творы, карціны і скульптуры, мастак -- гэта ўвогуле адносіны чалавека да жыцця праз прыгажосць. А ў мяне ўсё пачалося з Аляксандра Анісавіча Дзяругі, такіх людзей зараз называюць культуролагамі. Ён умеў заўважыць дзяцей, якіх вабіла мастацтва, якія імкнуліся да той самай прыгажосці, і займаўся з імі, аддаючы ім увесь вольны час і сваю душу. У яго былі цэлыя альбомы з мастацкімі фота, якія ён сам рабіў, Аляксандр Анісавіч шмат займаўся музыкай -- пісаў музычныя творы, арганізаваў народны цымбальны аркестр, ансамбль песні і танца імя Агінскага, не без яго ўдзелу быў створаны на Смаргоншчыне вялікі хор. Я таксама трапіў у гэтае асяроддзе, спачатку іграў у аркестры на кантрабасе, потым -- на цымбалах. Між іншым, Валодзя Някляеў, наш вядомы паэт, сядзеў са мною за адной партай і таксама іграў у аркестры на домры. Можа, сёння ўжо нічога не сыграе, але пачаўся ён таксама адтуль. Адным словам, Аляксандр Анісавіч быў чалавекам, які адкрываў дзецям вочы, першым далучаў іх да мастацтва. Ён змог даць вельмі моцны імпульс на ўсё астатняе жыццё многім і многім людзям. Мне пашчасціла яго сустрэць, і дзяцінства маё было вельмі светлым і багатым, я зараз успамінаю яго, як нешта святое і самае галоўнае.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## СЦЯЖЫНКАМІ Тамаша ЗАНА

# ДЗЕ ТОЙ КАХАЧЫН?

Тамаш Зан -- чалавек найцікавейшага лёсу. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў першых рэвалюцыйных арганізацый на Беларусі і ў Літве, паэт-рамантык і вучоны-прыродазнавец, найлепшы сябар Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Ігната Дамейкі. Бясспрэчна, яркая зорка на небасхіле беларускага грамадскага і культурнага жыцця першай паловы XIX стагоддзя. Далёкі ад сантыментаў Энцыклапедычны слоўнік Гранат сведчыць: "Чалавек вялікай сілы волі і рэдкай душэўнай чысціні, ён быў кумірам моладзі, лічыўся ўвасабленнем вышэйшых рыс духу і карыстаўся велізарным уплывам".

Жыццёваму і творчаму шляху Т.Зана прысвяцілі свае даследаванні літаратуразнаўцы і пісьменнікі Польшчы, Літвы, Расіі. Сярод нашых суайчыннікаў -- Кастусь Цвірка, Валянцін Грыцкевіч, Адам Мальдзіс.

Найменш вывучаным па-ранейшаму застаецца пасляссылачны перыяд жыцця Зана. У 1841 годзе "вечны выгнаннік" вяртаецца нарэшце на радзіму. Займаецца навуковай і педагагічнай работай. З 1844 года працуе інспектарам казённых маёнткаў на Лепельшчыне. Потым выходзіць у адстаўку. У 1846 годзе ажаніўся з Брыгідай Свентажэцкай. Па парадзе Адольфа Дабравольскага і з яго дапамогай (далі грошы і жончыны бацькі) Зан набывае невялікі маёнтак Кахачын у Аршанскім павеце Магілёўскай губерні. Дабравольскі паставіў яшчэ і своеасаблівую ўмову: Зан павінен быў "аддзякаваць" яму -- напісаць тут аўтабіяграфію. Але гэта добрая задума, на вялікі жаль, засталася нясдзейсненай. Жыццё, хоць і нялёгкае, пайшло мерна і спакойна. Нараджаюцца чатыры сыны. Здаецца, жыць бы і жыць... 7 ліпеня 1855 года Тамаш Зан назаўжды пакінуў гэты свет. Пахавалі яго на каталіцкіх могілках у Смалянах.

(Заканчэнне на 4-й стар.).



"Камень філарэтаў", што пад Баранавічамі. Тут некалі бывалі Тамаш Зан, Ігнат Дамейка, Адам Міцкевіч і іншыя славутыя людзі Беларусі.

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*АФІЦЫЙНА*

## ДАКУМЕНТЫ З МІНУЛАГА



У Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь 14 лютага адбылася цырымонія перадачы архіўных матэрыялаў з МЗС ФРГ, якія датычаць дзейнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў перыяд 1920--1928 гадоў.

Яшчэ ў маі 1994 года былы міністр замежных спраў Беларусі П.Краўчанка ў асабістым пісьме да міністра замежных спраў ФРГ К.Кінкеля звярнуўся з просьбай аказаць садзейнічанне ў атрыманні гэтых дакументаў. Нямецкі бок адклікнуўся на просьбу, і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ФРГ у Беларусі Готфрыд Альбрэхт перадаў першую частку матэрыялаў міністру замежных спраў нашай рэспублікі Уладзіміру Сянько.

Паводле слоў старшыні Камітэта па архівах і справаводству Аляксандра Міхальчанкі, атрыманыя дакументы маюць вялікае значэнне для ўсебаковага вывучэння нашай гісторыі. Актуальнасць ім надае і той факт, што па розных прычынах многія дакументы аб гэтым перыядзе гісторыі Беларусі не захаваліся. Матэрыялы падрабязна адлюстроўваюць развіццё адносінаў паміж БНР і Германіяй, змяшчаюць аналітычныя і даведачныя звесткі аб становішчы Беларусі, карты рэспублікі тых гадоў.

НА ЗДЫМКУ: у час перадачы архіўных матэрыялаў.

*АДКРЫТАЕ ПІСЬМО*

## ПАЛІТЫЧНАЯ ПРАВАКАЦЫЯ

Дэпутаты Віцебскага абласнога Савета звярнуліся да Прэзідэнта і Вярхоўнага Савета Беларусі з адкрытым пісьмом, у якім патрабуюць не ствараць напружанасць у грамадстве вакол моўнага пытання, адхіліць розныя прапановы аб рэферэндумах па такому далікатнаму пытанню. Мова народа -- гэта скарб, які ствараўся многімі пакаленнямі беларусаў, і яе лёс нельга вырашаць галасаваннем.

Падтрымка дзяржаўнасці беларускай мовы пры поўных правах рускай і іншых моў на Беларусі не ёсць праява нацыяналізму, лічаць дэпутаты, а ёсць жаданне не даць загінуць беларускай мове, культуры, нашаму народу. Яны расцэньваюць заявы некаторых палітычных сіл аб антырускай істэрыі на Беларусі, аб наступленні ў нас нацыяналізму не толькі як палітыканства, але і як палітычную правакацыю.

*ПАЗІЦЫЯ БНФ*

## СУПРАЦЬ ПАГАДНЕННЯЎ

БНФ пачынае збор подпісаў насельніцтва з патрабаваннем ад Вярхоўнага Савета, урада і Прэзідэнта дэнансацыі Беларуссю Дагавора аб калектыўнай бяспецы краін СНД, прызнання несапраўдным пагаднення з Расіяй ад 6 студзеня 1995 года, спынення будаўніцтва расійскіх ваенных аб'ектаў на беларускай тэрыторыі і поўнага вываду расійскіх войскаў. Як сказана ў звароце да насельніцтва Беларусі, які прынялі ўдзельнікі апошняга пасяджэння сойма БНФ, у адваротным выпадку беларускія ваеннаслужачыя будуць удзельнічаць у ваенных канфліктах Расіі, а беларуская тэрыторыя -- зыкарыстоўвацца ў якасці стратэгічнага плацдарма паміж Расіяй і Захадам.

*ПЕРСПЕКТЫВЫ*

## ЗАЎТРА — ГОРШ, ЧЫМ СЁННЯ

Больш за 87 працэнтаў апытаных грамадзян Беларусі ацэньваюць сітуацыю ў сферы эканомікі рэспублікі як дрэнную, вельмі дрэнную або катастрафічную.

Да такога вываду прыйшлі спецыялісты Цэнтра даследаванняў будучыні пры выдавецка-паліграфічнай кампаніі "Эрыдан", завяршыўшы два цыклы апытанняў "Прагноз-95" і "Рэйтынг"95-1". 73,3 працэнта лічаць, што ў 1994 годзе іх сем'і жылі горш, чым у 1993, прыкладна такая ж колькасць рэспандэнтаў страціла надзею на паляпшэнне свайго дабрабыту ў гэтым годзе.

На пытанне, каму давяраеце больш за ўсё, 57,5 апытаных адказалі, што нікому, толькі 18,3 вераць Прэзідэнту (гэта, дарэчы, больш, чым Вярхоўнаму Савету), і толькі 2,2 -- мясцовым уладам і ўраду.

*"Зразумела, што камуністы ў чарговы раз захочуць пашумець на касцях 2-й сусветнай вайны. Я, як член сям'і загінуўшых і чалавек, у якога вайна адабрала чатырох блізкіх людзей, адношуся да памяці аб ёй больш сур'ёзна, чым камуністы, якія гэтую вайну разам з фашыстамі развязалі, а цяпер пампуюць палітычныя дывідэнды. Не магу забыць трэцяга ліпеня мінулага года, калі на плошчы Перамогі ў Мінску ля Вечнага агню стаялі разам пад недзяржаўным чырвоным сцягам Кебіч, камуністы і маскоўскія фашысты -- баркашоўцы. Сімбіёз, які мой загінуўшы бацька пяцьдзесят гадоў назад не змог бы прысніць і ў кашмарным сне. Дарэчы, гэтыя камуністы-фашысты і ўрадавыя чыноўнікі не пусцілі на плошчу калону ветэранаў вайны пад сцягамі антыгітлераўскай кааліцыі.*

*9 мая можна зноў чакаць камуністычнага шабашу. Народ сцерпіць. Асабліва калі "правільна" растлумачаць".*

*Зянон ПАЗЬНЯК.*

*БЕСПРАЦОЎЕ*

## ХТО БУДЗЕ ПЯТЫМ?

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў Рэспубліканскім цэнтры занятасці насельніцтва, колькасць беспрацоўных у Беларусі працягвае расці.

Калі на пачатак студзеня іх было 101 199 чалавек, то да лютага стала амаль на шэсць тысяч больш. На 1 лютага ў Мінскай вобласці зарэгістравана 20 768 жадаючых знайсці працу. За ёю ідзе Брэстчына -- 18 270 чалавек, яе цэнтры занятасці могуць прапанаваць сёння ўсяго 481 рабочае месца. Найбольш перспектыўна ў гэтым плане выглядае сталіца, дзе менш за ўсё беспрацоўных і больш шансаў набыць які-небудзь "прычал".

У мінулым годзе з дапамогай службаў занятасці ў рэспубліцы было працаўладкавана 81 289 чалавек, прафесіянальную перападрыхтоўку прайшлі 10 328 беспрацоўных. У цэлым па абласцях значыцца толькі 18 814 рабочых вакансій, а таму рэальная магчымасць пакінуць шэрагі беспрацоўных ёсць пакуль толькі ў кожнага пятага.

*ФІНАНСУЮЦЬ НЕМЦЫ*

## 13 з 16 — ПАСПЯХОВЫЯ

У рэспубліканскі Цэнтр перасадкі касцявога мозгу нядаўна паступіў дабрачынны груз з медыкаментамі на суму 800 тысяч дойчмарак.

-- Дапамога прыйшла ў рамках пагаднення паміж кіраўніцтвам Чырвонага Крыжа ФРГ і Чырвонага Крыжа Рэспублікі Беларусь, -- паведаміў карэспандэнту агенцтва РІД кіраўнік Цэнтра перасадкі касцявога мозгу Анатоль Ус. -- Нямецкі бок абавязаўся на працягу некалькіх гадоў аказваць мэтанакіраваную дапамогу ў фінансаванні мінскага цэнтра, трэцяга па ліку ў дзяржавах СНД. За год яго існавання мы правялі 16 аперацый, 13 з якіх аказаліся паспяховымі. Нямецкі Чырвоны Крыж за гэты час прадаставіў цэнтру неабходнае абсталяванне, забяспечвае яго медыкаментамі і правёў стажыроўку беларускіх медыкаў у Германіі.

*ЗДАЙ ЗБРОЮ*

## УВАХОД ЗАБАРОНЕНЫ

Беларускі парламент выказаўся супраць з'яўлення на пленарных пасяджэннях Вярхоўнага Савета, якія праходзяць у будынку Дома ўрада, асоб са зброяй -- выключэнні не робяцца ні для кога, нават для целаахоўнікаў Прэзідэнта. З такой ініцыятывай выступіў дэпутат Вярхоўнага Савета Уладзімір Грыбанаў.

Дэпутаты ўнеслі змяненні ў закон аб Вярхоўным Савеце, згодна з якім узброеным асобам забараняецца з'яўляцца ў парламенце, і даручылі Сакратарыяту паставіць на ўваходзе ў Дом урада, дзе праходзяць пленарныя пасяджэнні Вярхоўнага Савета, спецыяльныя сейфы, куды будзе здавацца зброя з выдачай узамен спецыяльных картак. Кантраляваць функцыяніраванне гэтай сістэмы будзе Сакратарыят Вярхоўнага Савета.

*У ГАСЦЯХ — НЕ ДОМА*

## У ПОЛЬСКІХ ТУРМАХ

Як паведаміў журналістам у час свайго прыезду ў Брэст загадчык консульскага аддзела пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы Міхаіл Аляксейчык, сёння каля двухсот беларусаў сядзяць у польскіх турмах. Гэта перш за ўсё грабежнікі і рэкеціры. Вельмі многа таксама тых, хто ўхіляецца ад акцызных падаткаў.

*ПРЫВАТНАЯ КАЛЕКЦЫЯ*

## 5 ТЫСЯЧ ЗНАЧКОЎ

Сцены аднаго з пакояў кватэры следчага Чэрвеньскага раённага аддзела ўнутраных спраў маёра Вячаслава Апанасевіча ад падлогі да столі свецяцца эмаллю самых разнастайных нагрудных значкоў. У калекцыі Апанасевіча пяць тысяч значкоў, каля паўтары тысячы з іх прысвечаны падзеям, датам, воінам Вялікай Айчыннай.

*ДА 50-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ*

## 100 ТЫСЯЧ ДРЭЎ

Нягледзячы на тое, што ўжо цяпер у краіне на ўсіх узроўнях вядзецца падрыхтоўка да святкавання 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, кіраўніцтва Беларускай партыі "зялёных" апасаецца, што ў выніку ўсе мерапрыемствы будуць зведзены да паказнога ўскладання вянкоў да брацкіх магіл, масавых выступленняў у прэсе і ўдзелу ў парадзе ў Маскве.

Таму "зялёныя" прапанавалі зусім незвычайны і арыгінальны спосаб адзначыць знамянальную падзею. Актывісты партыі ў рамках гэтай акцыі запланавалі пасадзіць у Беларусі каля 100 тысяч дрэў.

*СЕРВІС НА ЎЗРОЎНІ*

## НА ДАРОЗЕ БРЭСТ — ГОМЕЛЬ

"Пад ліпамі" -- так называецца гасцінічны комплекс, які адкрыўся каля Іванава Брэсцкай вобласці.

Адначасова ён можа "прытуліць" 42 чалавекі. Комплекс вызначаецца зайздросным камфортам: да паслуг кліентаў -- рэстаран, тэнісны корт, валейбольная пляцоўка, бар, саўна з басейнам, платная аўтастаянка з запраўчнай станцыяй, пункт абмену валюты.

Дарэчы, гэта адзіны комплекс на аўтастрадзе Брэст -- Гомель, дзе могуць адпачыць падарожнікі. Аўтастрада цягнецца праз усё Палессе, злучаючы Польшчу з Расіяй.

*ТУПІКІ*

## ДЭМАНЦІРУЮЦЦА СТАНЦЫІ

Рэзкае падзенне аб'ёму грузавых чыгуначных перавозак пацягнула за сабой скарачэнне станцый. Калі чатыры гады таму на чыгунцы ў суткі грузілася 340 тысяч тон народнагаспадарчых грузаў, то зараз -- у два разы менш. Значна знізіліся і аб'ёмы выгрузкі. Чыгуначнікі Беларусі вымушаны былі закрыць 53 станцыі.

Прааналізаваўшы, якія перспектывы ў гэтых станцый у бліжэйшай будучыні, спецыялісты ўпраўлення чыгункі прыйшлі да высновы, што прыкладна палова з іх так і не спатрэбіцца.

*КОНКУРС МАНЕКЕНШЧЫЦ*



У Мінску ў Доме афіцэраў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь прайшоў конкурс манекеншчыц "Супермадэль Беларусі", у якім прынялі ўдзел шаснаццаць дзяўчат ва ўзросце 15--16 гадоў з усёй рэспублікі. Яны дэманстравалі мадэлі адзення вясенне-летняга сезона. Праводзіла конкурс вядомае рэкламнае агенцтва Сашы Варламава.

Званне "Супермадэль Беларусі" заваявала мінчанка Алена БУШУЕВА.

НА ЗДЫМКУ: дэманстрацыя мадэляў.

*ЭКАЛОГІЯ*

## СТРОНЦЫЙ У ЗЕРНІ

У 15 калгасах і саўгасах Гомельшчыны ў мінулым годзе ўтрыманне стронцыю ў зерні перавысіла дапушчальны ўзровень. Адбылося гэта з-за недахопу мінеральных угнаенняў. Спецыялісты лічаць, што, калі не прыняць тэрміновых мер, забруджванне сельгаспрадукцыі радыенуклідамі можа павялічыцца ў 2--3 разы, а кожны гектар будзе даваць толькі 15 цэнтнераў кармавых адзінак.

## СТАН ПАВЕТРА ПАЛЕПШЫЎСЯ

1,5 мільярда рублёў паступілі ў мінулым годзе на рахункі Мінскага абласнога і раённых фондаў аховы прыроды ў якасці экалагічнага падатку і штрафаў. 80 працэнтаў ад гэтай сумы накіраваны на будаўніцтва, капітальны рамонт і рэканструкцыю прыродаахоўных аб'ектаў.

**Санаторна-аздараўленчы комплекс "Белая Русь", што размясціўся ў адным з маляўнічых куткоў Туапсінскай бухты, у непасрэднай блізкасці ад Чорнага мора, -- своеасаблівы астравок беларускай дзяржавы на расійскай зямлі. Гэтая здраўніца, што прыняла першых адпачываючых у чэрвені 1994 года, лепшая ў сістэме аховы здароўя рэспублікі. Па камфорту і ўзроўню курортна-аздараўленчых паслуг яна прыраўноўваецца да чатырохзоркавага гатэля.**

**У адзіным архітэктурным комплексе спраектаваны сяміпавярховы будынак спальнага і лячэбна-дыягнастычнага карпусоў. Камфартабельныя нумары з тэлефонам, кандыцыянерам, халадзільнікам, зручнай мэбляй настройваюць на спакойны адпачынак. У санаторыі выдатная сталовая на 500 месцаў, рэстаран, бары, кіна- і чытальная зала, бібліятэка. Санаторый мае дыягнастычны цэнтр, аснашчаны самым сучасным медыцынскім абсталяваннем. Да паслуг адпачываючых -- чатыры плавальныя басейны з марской вадой, тэнісныя корты, дзіцячая гульневая, валейбольныя і баскетбольныя пляцоўкі. Да мора вядзе прагулачная сцежка, пляжная паласа пакрыта дробнай галькай. Цёплы чарнаморскі клімат дазваляе купацца ў моры і прымаць сонечныя ванны з мая па кастрычнік. Тут можна добра і камфортна адпачываць круглы год.**

**Маюць асалоду ад усяго гэтага цяпер жыхары Гомельшчыны, якія прыбылі з зон, што пацярпелі ад Чарнобыля.**



**НА ЗДЫМКУ: санаторый "Белая Русь" у Туапсэ.**

# "СЁННЯ Ў НАС ПОЎНЫ РАЗБОЙ — І НА ВУЛІЦЫ, І Ў ЭКАНОМІЦЫ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

I яшчэ адна вельмі балючая кропка -- навука. Пра якое развіццё можна сёння гаварыць, калі наша навука гіне, развальваецца. I не толькі ў акадэміі. Развальваецца і галіновая навука, і ведамасная, і прыкладная. I гэта ў той час, як заўсёды нашай казырнай картай быў перш за ўсё навукова-інтэлектуальны патэнцыял, дарэчы, вельмі значны. Беларусь вызначалася сваім навукова-інтэлектуальным патэнцыялам не толькі ў савецкі час, але і значна раней. Зараз мы нарэшце пачынаем нешта даведвацца з нашай гісторыі і бачым, колькі выдатных навукоўцаў нарадзілася на Беларусі. Мне сорамна, але я толькі нядаўна прачытаў, што канструктар знакамітых самалётаў СУ -- наш гомельскі беларус, таксама як і пра тое, што "ідэолагам" вядомага маскоўскага "ядзернага шчыта", пра які многа казалі, быў наш зямляк, цёзка па прозвішчу вядомага пісьменніка Караткевіча. Любую галіну навукі вазьміце — колькі там нашых розумаў! А ў выніку атрымалася, што лепшыя беларускія розумы выехалі з радзімы, а тыя, што ёсць, як след не выкарыстоўваюцца: магчыма, улады лічаць, навошта нам тут свая навука, навошта, скажам, інстытут эканомікі, у якім, дарэчы, сёння засталося толькі 35 чалавек. I гэта ў незалежнай краіне, якая павінна будаваць самастойнае жыццё! У Расійскай акадэміі навук сем інстытутаў. А ёсць жа там яшчэ магутныя галіновыя інстытуты, інстытуты Міністэрства замежных спраў, якія вывучаюць сусветную эканоміку. I ў Міністэрства эканомікі свае інстытуты... А ў нас... I я лічу: гэта вельмі вялікая наша памылка.

Яшчэ пра адзін вельмі важны фактар хачу сказаць — пра наша геапалітычнае становішча. Беларусь знаходзіцца паміж Усходам і Захадам, і мы можам многа з гэтага мець. Але, папершае, трэба мець зноў-такі розум. Таму што вельмі лёгка гэтую геапалітычную перавагу страціць, і тады нехта іншы будзе выкарыстоўваць нашы перавагі: альбо Захад, альбо Усход. Натуральна, што той нехта не будзе клапаціцца, каб наш навуковы патэнцыял на нас працаваў, усё будзе павернута толькі на чыюсьці карысць, але ніяк не на нашу. I што пасля гэтага ў нас застаецца? Танная рабочая сіла і ўсё. Чамусьці Германія, напрыклад, так баіцца Японіі, што ўсімі сіламі імкнецца перахапіць ініцыятыву ў навукова-тэхнічным прагрэсе, у прыватнасці, у радыёэлектроніцы. А нам усё не страшна. Чаму гэта: калі ўсім страшна, нам не страшна? I таму, мне здаецца, нам, беларусам, даўно час кінуць кліч: "Беларусы! Аб'ядноўваемся!" У імя выратавання нашага беларускага этнасу, у імя выратавання нашай дзяржавы. Я разлічваў, што калі будзе абраны прэзідэнт, то галоўнае, што ён зробіць (і гэта, я лічу, абавязак кожнага прэзідэнта) -- распачне вялікую работу, каб захаваць свой народ, сваю дзяржаву. Каб жа дасягнуць таго, трэба дамагацца нацыянальнай згоды па ўсіх вызначальных пытаннях. Але замест згоды я нават і не ведаю, што мы маем. Зноў пачаліся "разборкі" наконт мовы, сімволікі, быць ці не быць суверэнітэту беларускай дзяржавы -- ці трэба да кагосьці далучацца, невядома да каго -- хто нам больш заплаціць... Хаця павінны былі б зразумець тыя, хто напрошваецца быць нечым пратэктаратам: ёсць усё-такі аб'ектыўная заканамернасць -- ніколі перыферыя не будзе жыць так, як цэнтр. Таму, напрыклад, я не супраць саюза і з Расіяй, і з іншымі краінамі, але такі саюз не павінен быць аднаполюсным, якім быў раней, калі Маскву хацелі зрабіць узорнай сталіцай свету. Маскву, а не Мінск! У выніку мноства лепшых артыстаў, навукоўцаў паехалі з Беларусі туды. А там, дзе канцэнтруюцца "мазгі", там яны і робяць лепшыя ўмовы жыцця для сябе і сваіх дзяцей. Мы ж памятаем, як ездзілі ў Маскву за каўбасой, а што тычыцца прамысловых тавараў шырокага спажывання, я і сам колькі разоў у Маскве чаравікі купляў і дзецям нейкія касцюмчыкі... У Маскве і кватэры простыя абывацелі атрымлівалі хутчэй, чым у Мінску. I гэта ўсё аб'ектыўна, бо там канцэнтраваліся лепшыя розумы, значыць, там і лепшыя ўмовы.

Шукаць, да каго прытуліцца, -- значыць не паважаць саміх сябе. На вялікі жаль, мы сябе сёння не паважаем, і я апошнім часам пачынаю разглядаць нашу славутую нацыянальную талерантнасць не як выдатную якасць, а хутчэй, адмоўную рысу характару. Так, талерантнасць не вядзе да такіх канфліктаў, што цяпер адбываюцца, скажам, у Чэчні. Але з іншага боку, гэтая самая талерантнасць можа давесці да таго, што мы ўсё страцім: і сваю мову, і сваю культуру, і сваю спадчыну забудзем. Вось вы спытайце сёння ў маладых дыпламаваных спецыялістаў: хто такі Мікола Гусоўскі? I многія не ведаюць! А вазьміце славутага Скарыну. Яго вучань у Маскве адкрываў друкарню. I ў выніку першадрукар не Скарына, а той, другі. Пра бітву на Чудскім возеры ў школе вучаць, а тое, што да гэтага беларусы білі крыжакоў, хто-небудзь з вучняў ведае? Вось і здаецца мне: мы ўсе, беларусы, павінны найперш палюбіць саміх сябе, сказаць, што мы -- людзі, што мы — народ. I на гэтай падставе аб'яднацца і зрабіць так, каб кожны беларус, незалежна ў якім куточку зямлі ён жыве, зрабіў усё, што ў яго сілах, каб захаваць наш беларускі этнас. А для гэтага трэба захаваць сваю дзяржаву, а каб захаваць сваю дзяржаву, неабходна хутчэй выйсці з агульнага крызісу.

Мне ўжо хутка шэсцьдзесят гадоў. Я памятаю вайну з фашыстамі, пасляваенны час. Ніякага параўнання няма, што было ў 45-м годзе, 46-м і што сёння ёсць. У нас больш падстаў для таго, каб нармальна жыць і з добрай надзеяй глядзець у будучыню. Але цяпер на Беларусі няма нацыянальнай ідэі, няма наогул ніякай ідэі. Як раней мы імкнуліся пабудаваць камунізм у адной асобна ўзятай краіне, так зараз некаторыя нашы жыхары імкнуцца пабудаваць камунізм у адной асобна ўзятай сям'і. Але, калі вакол голад, жабрацтва, роспач, не будзе гэтага. I тут ужо і талерантнасць нашым новым багацеям не дапаможа. I хаця я эканаміст, і з маіх вуснаў, можа, гэта гучыць і не зусім звыкла, -- больш тыпова, калі эканамісты аперыруюць нейкімі эканамічнымі выкладкамі, але тым не менш, я кажу: сёння не ў эканоміцы справа. Сёння нашаму народу патрэбны дух! Я супраць нацыяналізму, я люблю рускі народ, мая жонка -- руская, масквічка, але тым не менш... I з рускімі я хачу дружыць, як і з украінцамі, літоўцамі... Але на роўных. Не хачу я быць ні ў кога ўтрыманцам і не хачу я нікога лічыць старэйшым...

*-- ...братам?*

-- Братам -- калі ласка. Старэйшым -- ніколі. Я хачу быць роўным братам. Мне здаецца, толькі падобная ідэя можа нас выратаваць.

*-- Генадзь Міхайлавіч, ці ідуць у нас хаця б якія эканамічныя рэформы, альбо тут поўны штыль, "мёртвае" мора?*

-- Я не хачу сказаць, што мора "мёртвае"... Часам нават шуміць нашае мора: тая ж прыватызацыя то рушыцца, то спыніцца...

*-- Такое ўражанне, што гэтая прыватызацыя ідзе толькі на словах...*

-- Не. Ёсць і прыватызацыя, і аўкцыёны праводзяцца, і адпаведныя лічбы друкуюцца, і сумесныя прадпрыемствы ствараюцца. Але ўсё гэта ідзе вельмі марудна. А чаму марудна? Зноў-такі таму, што мы не дамовіліся пра тую дзяржаву, якую хочам будаваць, пра тую эканамічную сістэму, якую імкнемся стварыць. Мы нават не дамовіліся, якая ў нас мова павінна быць. Адна ці дзве дзяржаўныя? Калі дзве, то ў які запечак нам запіхнуць сваю, беларускую мову? А калі няма такога пэўнага вызначэння наконт таго, што мы хочам, то ці ж можна хутка, паслядоўна, мэтанакіравана праводзіць якіянебудзь рэформы? Тады яны ўсё зігзагамі ды калдобінамі ідуць: мы то шарахнем сюды, то шарахнем туды...

*-- Цяпер сярод эканамістаў модна дзяліцца на катэгорыі па прыхільнасцях -- "рыначнікі", "дзяржаўнікі" і гэтак далей. Вы да каго сябе адносіце?*

-- Я вырас на той эканоміцы, якая была раней, але даўно ўжо і бачыў яе недахопы. Я лічу, у нас павінна быць рыначная эканоміка, але, асабліва на сучасны момант, яна ўсё ж у значнай ступені павінна рэгулявацца дзяржавай. Гэта не значыць, што дзяржава можа ўзяць лейцы і закілзаць кожнага суб'екта гаспадарання, не. Дзяржаўнае рэгуляванне -- гэта калі дзяржава стварае правілы гульні, але ў межах гэтых правілаў усе суб'екты гаспадарання эканамічна свабодныя. Таксама дзяржава павінна жорстка кантраляваць, каб ніхто гэтыя правілы не парушаў, і да таго ж, калі трэба, уносіць у іх карэктывы такім чынам, каб усё-такі эканоміка развівалася. Дзяржава павінна сачыць, каб рынак перш за ўсё працаваў на чалавека, а потым на грамадства і на дзяржаву. Сёння я наогул не бачу дзаржаву: я не бачу, каб яна абараняла мяне, чалавека, мае правы. У мяне былі грошы -- цяпер іх няма. Учора я з'яўляўся саўладальнікам, а сёння -- ніякі і не саўладальнік: нехта ўжо забраў усю сапраўдную ўласнасць, а мне пакінуў завод, які ніколі не будзе працаваць з прыбыткам. Калі я іду па вуліцы, і мяне "бахнуць" па галаве, забяруць шапку (хаця яна ніякая і не пыжыкавая, але за бутэльку прадаць можна), ніхто мяне не абароніць... I калі прыйдзе рабаўнік у маю кватэру, разаб'е вокны, яго зноў ніхто не шукае. Што гэта за дзяржава? Я -- "рынаčнік", але перакананы, што рынак павінен быць сацыяльна арыентаваны і з дзяржаўным рэгуляваннем, таму што сёння мы маем поўны разбой -- і на вуліцы, і ў эканоміцы.

*-- Генадзь Міхайлавіч, яшчэ 2--3 гады таму на фоне крызісу, які тады ўжо распачаўся ў былых саюзных рэспубліках, Беларусь выглядала астраўком адноснага дабрабыту. Што ж здарылася за апошні час? Зараз мы ўжо прыклад заняпаду нават у рамках СНД. Ці ранейшы наш дабрабыт быў уяўным? Ці беларускія кіраўнікі здолелі столькі дроў наламаць?*

-- Што і казаць, памылак было зроблена вельмі многа.

*-- Менавіта за апошнія год-два?*

-- Не толькі за год-два. Адлік памылкам трэба пачынаць з 89-га года, калі ўжо стала зразумелым, што Саюз і адзіны народнагаспадарчы комплекс будуць развальвацца. Ужо тады нам трэба было ўбачыць гэта як факт непазбежны, як факт, які можа вельмі балюча ўдарыць па беларускай эканоміцы. Неабходна было папярэдзіць і як мага паслабіць гэты ўдар. Перш за ўсё я маю на ўвазе галіновую перабудову. Беларуская эканоміка калісьці была, як мы гаварылі, "зборачным цэхам". На той час гэта было добра, а сёння -- вельмі дрэнна, таму што мы сыравінна звязаны з Расіяй -- атрымліваем адтуль недзе працэнтаў семдзесят пяць. У выніку Расія дыктуе цэны і "распранае" нас, як хоча. Расія ўключыла помпу ў адносінах да нас гэтак жа сама, як і заходнія краіны ўключылі свае помпы ў адносінах да Расіі. Пакуль супраць гэтага мы нічога не можам зрабіць. Наш урад аказаўся непрадбачлівым. Хаця ўжо ў той час мы распрацавалі канцэпцыю эканамічнага суверэнітэту тады яшчэ Беларускай ССР. Гэта было на пачатку дзевяностага года, калі Беларусь яшчэ мела сродкі для капітальных укладанняў, існавала дысцыпліна, матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне. Трэба было хутка ўсё гэта выкарыстоўваць. Але нічога так і не было зроблена. Страшэнна адсталі мы і з пачаткам прыватызацыі. Я ўпэўнены: не трэба баяцца прыватнага сектара, хаця нам і цяжка да яго прызвычаіцца. Дзяржаўнаму сектару неабходная альтэрнатыва. Галоўным рухавіком рынку з'яўляецца здаровая канкурэнцыя.

*-- Ці браў удзел ваш інстытут у распрацоўцы апошніх дзяржаўных эканамічных праграм?*

-- Так, але значна менш, чым гэта адбывалася раней. У нас ужо нават няма і сіл такіх, як калісьці.

*-- Тады можа раскрыеце сакрэт: хто ж у такім выпадку сёння дыктуе нам эканамічную "моду"?*

-- Мне здаецца, у распрацоўцы апошняй антыкрызіснай праграмы найактыўнейшы ўдзел узялі банкаўскія структуры. Галоўная мэта праграмы — спыніць інфляцыю, якая, бяспрэчна, з'яўляецца страшэннай бядой у эканоміцы. Ставіцца задача спыніць падзенне курсу беларускага рубля, як кажуць у народзе, -- "зайчыка". Ёсць у гэтай праграме нейкія спробы ўзмацніць дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі, зменшыць адмоўны баланс у гандлі з Расіяй. Але і пераацэньваць эфектыўнасць антыкрызіснай праграмы ніяк нельга. Справа ў тым, што толькі за кошт фінансава-крэдытных рычагоў стабілізаваць эканоміку немагчыма. Трэба паралельна мець пэўны план развіцця і забеспячэння вытворчасці. У антыкрызіснай жа праграме пра вытворчасць вельмі мала што сказана.

*-- А якія вашы адносіны да супрацоўніцтва з Захадам, тым жа Міжнародным валютным фондам? Ці сапраўды для нас гэта панацэя ад усіх эканамічных бедаў, як неаднойчы даводзілася чуць?*

-- Зноў вяртаюся да таго ж: трэба з усімі супрацоўнічаць — і з Расіяй, і з Захадам. Але трэба мець розум. Возьмем самы просты жыццёвы прыклад: з братам родным і то трэба ўмець весці справы, а з суседам — тым больш. Ад супрацоўніцтва толькі тады выйграюць абодва — калі абодва разумныя. Калі ж гэтага няма, то разумнейшы заўсёды перацягне коўдру на свой бок, і другі непазбежна застанецца ў дурнях.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**



Яшчэ доўга гісторыкі будуць даследаваць падзеі, што адбыліся пад Навагрудкам у першыя месяцы Вялікай Айчыннай вайны. Тады ў так званы Навагрудскі кацёл трапіла адзінаццаць савецкіх дывізій, якія былі акружаны і, у асноўным, разгромлены. Салдаты і афіцэры, якія выйшлі з акружэння, вымушаны былі пайсці ў партызанскія атрады.

Доўгія гады гісторыя замоўчвала гэтыя падзеі. І толькі цяпер сіламі навагрудскіх краязнаўцаў, ветэранаў вайны ўносіцца яснасць у тое, што адбывалася ў тыя далёкія дні. Сярод тых, хто актыўна дапамагае мясцоваму краязнаўчаму музею ў зборы матэрыялаў, -- і ветэраны Вялікай Айчыннай былы настаўнік Іван **ФЯДУЛАЎ** і ў мінулым урач-судмедэксперт Васіль **ХАРЫТОНЧЫК** (на здымку).

# ДЗЕ ТОЙ КАХАЧЫН?

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.).**

Вядомы мастак Напалеон Орда, наведаўшы ў 70-х гадах XIX стагоддзя мястэчка, зрабіў малюнак "Помнік Тамаша Зана".

Але час ды чалавечая абыякавасць і варварства прывялі да таго, што крыжы на помніках Т.Зана і яго жонкі, пахаванай побач, былі скінуты, бясследна знікла ланцуговая агароджа. І, урэшце, усе пахаванні старой часткі могілак маюць жудасны выгляд. Зараз, праўда, магілы сям'і Зана (тут пахаваны і іх сын Абдон) намаганнямі вучняў мясцовай школы прыведзены ў належны парадак.

Удалося прачытаць поўнасцю і надпіс на мемарыяльнай пліце, якая выбіта на вялікім валуне, што ляжыць перад помнікамі. Вось яго поўны тэкст (у перакладзе з польскай мовы): "Мілы Богу і людзям Тамаш Зан, памяць пра якога благаславенна. ekkl. XLV:1. Жыў шэсцьдзесят гадоў. Памёр 7 ліпеня 1855 года ў Кахачыне. З Свентажэцкіх Брыгіда Зан пахавана побач са сваім мужам 23 жніўня 1900 года ва ўзросце 81 г. Сын іх немаўля Стась памёр у 1854 годзе". Лацінскія літары і лічбы дапамагла нам расшыфраваць сястра Андрыяна з аршанскага касцёла св. Іосіфа. Аказваецца, тут цытуецца біблейская "Кніга прамудрасці Ісуса, сына Сірахава", або яшчэ яна называецца "Эклезіястык" (там толькі імя іншае -- Маісей). Менавіта гэты кароткі, але вельмі красамоўны надпіс прапанаваў выбіць на пліце сябар Зана Уладзіслаў Любамірскі.

Паставілі мы перад сабой і мэту знайсці Кахачын ці тое, што, магчыма, ад яго засталося. Звярнуліся перш-наперш да даведнікаў. Але такой вёскі няма ні ў "Слоўніку назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці", ні ў працах па тапаніміцы В.Жучкевіча. У "Опыте описания Могилевской губернии", выдадзеным у канцы XIX стагоддзя А.Дзембавецкім, дзе, здаецца, падлічаны не толькі ўсе душы і хаты ў краі, але і кожнае дрэва ў лесе, Кахачын таксама не патрапіў.

А.Міцкевіч у 1853 годзе піша І.Дамейку з Парыжа: "У Тамаша Зана вёсачка ў Беларусі..." Але ж дзе тая вёска? Вырашаем шукаць на месцы. Была адна зачэпка. К.Цвірка ў сваім эсэ "Лісце забытых алеяў" прывёў урывак з ліста Міхала Чарноцкага, дзе паведамлялася аб набыцці ім маёнтка Ледневічы (цяпер вёска ў Сенненскім раёне), які знаходзіўся за пяць вёрст ад маёнтка Зана. Дарэчы, М.Чарноцкі -- малодшы брат выдатнага беларускага славяназнаўцы З.Даленгі-Ходакоўскага -- пахаваны побач з Занамі. Помнік на магіле гэтага публіцыста і гісторыка невялікі і амаль урос у зямлю.

Прыйшлі летнія канікулы, і краязнаўцы Смалянскай школы накіраваліся ў вандроўку на Сенненшчыну. Праходзячы па вёсках, пыталіся ў сталых тубыльцаў, ці ведаюць яны што-небудзь пра Кахачын. Усе паціскалі плячыма. Пабывалі мы ў 83-гадовай Васіліны Кірыкавай, што жыве ў Ледневічах. Доўгі час працавала яна фельчаркай і таму ведае ўсё наваколле. Сагнутая пад цяжарам гадоў, але ў добрай памяці, ветлівая і сардэчная жанчына расказвала нам шмат чаго аб мінулым жыцці. А вось пра Кахачын нічога ніколі нават не чула. Гэта нас, шчыра сказаць, не вельмі засмуціла, бо адсутнасць выніку -- таксама вынік. Значыць, нас чакаюць наперадзе новыя вандроўкі, сустрэчы з цікавымі людзьмі, салодкае прадчуванне знаходак.

Яшчэ трохі раней, калі заняліся пошукам месца былога маёнтка Зана, звярнулі ўвагу на назву Какоўчына. У час паходу пабывалі і тут. Вёска вельмі прыгожая. Стаіць на ўзгорку, таму добра бачная здалёк. У цэнтры -- новыя сучасныя будынкі: сельскі Савет, магазіны, клуб, пошта. Але пра далёкае мінулае вёскі нам ніхто не мог сказаць нічога пэўнага.

Праз некаторы час аўтару гэтых радкоў прыйшлося папрацаваць у аддзеле рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Праглядаў і шматтомны "Слоўнік геаграфічны Каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх", выдадзены ў Варшаве на рубяжы XIX і XX стагоддзяў. І ў гэтым надзіва грунтоўным і інфармацыйна насычаным выданні Кахачына няма. Бяру ў рукі другую частку дадатковага 15-га тома і там на старонцы 39 чытаю: "Какоўчын, вёска і маёнтак Сенненскага павета... 6 дамоў, 46 жыхароў, царква, школа. Маёнтак, уласнасць Занаў..." Стоп! Аказваецца, не Кахачынам, а Какоўчынам валодалі Заны. Мо наблыталі складальнікі "Слоўніка..."? Пэўна -- не. Але чаму змянілася назва? Ці то з цягам часу Кахачын зліўся з большай вёскай Какоўчын? Ці то трансфармавалася назва? Карацей, патрэбны далейшыя пошукі. А што засталося ад сядзібы? Мяркую, Заны жылі не ў мураваным палацы, а ўсяго толькі ў вялікім драўляным доме. І ён у страшэннай віхуры рэвалюцый і войнаў нашага бурлівага стагоддзя не захаваўся, хутчэй за ўсё згарэў ці быў разабраны на дровы.

Наступныя два гады -- юбілейныя. У 1995-м -- 140-я гадавіна з дня смерці "архіпрамяністага", а праз год -- 200-годдзе з дня яго нараджэння. І абавязкова трэба адзначыць памятнай дошкай ці якімсьці іншым чынам тыя мясціны, дзе Тамаш Зан правёў апошнія гады жыцця і дзе знайшоў свой вечны спачын.

**Віктар ЛЮТЫНСКІ.**

ВАЙНА: ДРУГІ БОК МЕДАЛЯ

# ПАМІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ

Адукацыя небяспечная. Што тычыцца харчавання, то яны не павінны атрымліваць больш, чым неабходна". Гітлер патрабаваў, каб пры адступленні не пакідаць ні людзей, ні жывёлы, ні дамоў.

Спрабуючы вырашыць праблемы недахопу рабочай сілы за кошт замежных рабочых, захопнікі вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, па розных ацэнках, ад 5 да 7 мільёнаў чалавек (паводле ацэначных даных, з Беларусі было вывезена да 1 мільёна грамадзян. -- **І.К.**). З іх больш чым 750 тысяч загінула ў выніку жорсткага абыходжання і цяжкіх жыццёвых умоў. Бяспраўнае становішча "ўсходніх рабочых" вызначалася тым месцам, якое яны займалі ў сацыяльнай іерархіі "трэцяга рэйха", услед за яўрэямі, цыганамі, ваеннапалоннымі.

## 2. РЭПАТРЫЯЦЫЯ

К канцу вайны засталося ў жывых за мяжой 4 755 942 савецкія чалавекі (грамадзянскіх асоб і ваеннапалонных). Прычым да 1 сакавіка 1946 года ў СССР было рэпатрыіравана амаль 4,2 мільёна савецкіх грамадзян, а з 1 сакавіка 1946 года па 1 студзеня 1952 года яшчэ каля 105 тысяч.

У ліку рэпатрыіраваных да 1 сакавіка 1946 года было 2 654 185 грамадзянскіх асоб і 1 545 303 ваеннапалонныя. Большасць рэпатрыянтаў прыбыло з зон дзеянняў саюзных англа-амерыканскіх войскаў. К 1 сакавіка 1946 года паступіла 2 352 686 савецкіх грамадзян, з іх 1 392 647 грамадзянскіх асоб і 960 039 ваеннапалонных. З зон дзеяння савецкіх войск за мяжой да 1 сакавіка 1946 года было рэпатрыіравана 1 846 802 савецкія грамадзяніна, у тым ліку 1 261 538 грамадзянскіх асоб і 585 264 ваеннапалонныя.

Паводле афіцыйных даных, каля 10 працэнтаў савецкіх грамадзян, што апынуліся за мяжой (451 561 чалавек), склалі "другую эміграцыю". Аднак у гэтую колькасць не ўключаны былыя савецкія немцы, жыхары заходніх абласцей Беларусі і Украіны і некаторыя іншыя. З улікам гэтых "іншаземцаў" колькасць "другой эміграцыі" перавышае 600 тысяч чалавек.

У ліку савецкіх грамадзян, якія па розных прычынах не вярнуліся ў СССР і склалі "другую эміграцыю", было прыкладна 3/4 так званых "заходнікаў", г. зн. жыхароў рэспублік і абласцей, што ўвайшлі ў склад СССР у 1939--1940 гадах (Літва, Латвія, Эстонія, Заходняя Беларусь, Правабярэжная Малдавія і Паўночная Букавіна). Астатнія каля 1/4 "другой эміграцыі" складалі "ўсходнікі", г.зн. жыхары СССР у межах да 17 верасня 1939 года. Можна меркаваць, што ў "другой эміграцыі" апынулася не менш 110 тысяч беларусаў.

З агульнай колькасці савецкіх грамадзян, што склалі "другую эміграцыю", 103 716 чалавек, паводле даных на 1 студзеня 1952 года, былі ў заходніх зонах Германіі і Аўстрыі, 100 036 - у Англіі, 50 307 -- Аўстраліі, 38 251 --ЗША, 27 570 -- Швецыі, 19 675 -- Францыі, 14 729 -- Бельгіі, 7 085 -- Аргенціне, 6 961 -- Фінляндыі і інш.

Рэпатрыяцыя савецкіх грамадзян ажыццяўлялася на падставе сакрэтных пагадненняў Ялцінскай канферэнцыі 1945 года.

Краіна і свет яшчэ не перажылі дні трыумфу, яшчэ неабходна было завяршыць вайну на Усходзе, а перад савецкім кіраўніцтвам паўсталі новыя клопаты -- "звыклыя" і нязвыклыя.

Адна з майскіх дырэктыў, падпісаных Сталіным:

"Камандуючым войскамі І і ІІ Беларускіх, І, ІІ, ІІІ і IV Украінскіх франтоў. Тав. Берыя, тав. Мяркулаву, тав. Абакумаву, тав. Голікаву, тав. Хрулёву, тав. Голубеву.

Ваенным Саветам франтоў сфарміраваць у тылавых раёнах лагеры для размяшчэння і ўтрымання былых ваеннапалонных і рэпатрыіруемых савецкіх грамадзян на 10 000 чалавек кожны лагер. Усяго сфарміраваць: у ІІ Беларускім фронце 15, у І Беларускім фронце -- 30, у І Украінскім -- 30, у IV Украінскім фронце -- 5, у ІІ Украінскім фронце -- 10, у ІІІ Украінскім фронце -- 10 лагераў... Праверку ўскласці: былых ваеннаслужачых Чырвонай Арміі -- на органы контрразведкі "СМЕРШ", грамадзянскіх асобаў -- на камісіі НКУС, КДБ, "СМЕРШ"...

**І.СТАЛІН".**

Сто лагераў... Далёка не ўсім удасца прайсці гэтыя "праверкі". Акрамя паліцаяў, перабежчыкаў, у гэтай колькасці -- большасць тых, хто ў трагічныя першыя месяцы вайны апынуўся ў акружэнні, іншыя -- вывезены на рабскія работы ў Германію. Для многіх перамога азначала працяг пакут. Напрыклад, генерал Павел Панядзелін у жніўні 1941 года на тэрыторыі Беларусі, будучы цяжка параненым, у непрытомным стане трапіў у палон. У тым жа годзе па ілжываму даносу быў завочна ў нас асуджаны і прыгавораны да расстрэлу. Доўгія чатыры гады гітлераўскіх лагераў не зламалі генерала: падтрымліваў тых, хто паў духам, рашуча адмаўляўся ад супрацоўніцтва з немцамі. Пасля вызвалення ў маі 1945 года Панядзеліна арыштавалі, ён зноў трапіў у лагер, цяпер ужо савецкі. Пасля некалькіх гадоў лагераў Панядзелін піша хадайніцтва Сталіну аб памілаванні. Але яго зноў асудзілі 25 жніўня 1950 года і яшчэ раз прыгаварылі да расстрэлу...

Перамога прывяла ў рух народы. Сотні тысяч вязняў, перамешчаных, занесеных ураганам вайны ў чужыя мясціны, пацягнуліся дамоў.

У канцы вайны ў заходняй частцы Германіі знаходзілася не менш двух мільёнаў савецкіх грамадзян, і працэс іх рэпатрыяцыі праходзіў так інтэнсіўна, што за два месяцы савецкім прадстаўнікам было перададзена 1 393 902 чалавекі.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 7.**




**Лагер смерці Асвенцім у Польшчы.**
**НА ЗДЫМКУ: вароты лагера смерці.** **Фота ПАП/ЦАФ-БЕЛІНФАРМ.**

337

Пры гэтым зносіліся і дробныя вёскі, бо раскіданыя па лясах малыя паселішчы давалі прытулак удзельнікам антысавецкага падполля. А на новым месцы памеры прысядзібных участкаў перасяленцаў наўмысна памяншалі (з 0,5 да 0,3 гектара), спасылаючыся на недахоп зямлі. Такім чынам, сяляне гублялі эканамічную незалежнасць і ператвараліся ў калгасных батракоў. Сялянская прага да самастойнага гаспадарання прымушала прыхопліваць кінутыя калгасныя землі хоць на нейкі час. У 1951--1952 гадах у калгасах (пераважна заходніх абласцей БССР) было выяўлена 76 тысяч захопаў.

Нават па афіцыйных звестках, у больш чым трэці беларускіх пасляваенных калгасаў не выдавалі хлеба, у больш чым палове -- грошай на зробленыя працадні. А каб калгаснікі не маглі ратавацца ад голаду коштам калгаснага дабра, у 1947 годзе быў прыняты выключна жорсткі ўказ аб крымінальнай адказнасці за раскраданне дзяржаўнай і грамадскай маёмасці. Ён прадугледжваў нават за нязначны крадзеж турэмнае зняволенне ад 5 да 25 гадоў. На калгасных палях замест мужчын, што не прыйшлі з вайны, працавалі жанчыны-ўдовы, старыя, падлеткі. У 1948 годзе на іх долю прыпадала да 77 працэнтаў працаздольнага насельніцтва беларускай вёскі ва ўзросце ад 16 да 60 гадоў. Колькасць мужчын у гэтым узросце скарацілася ў калгасах Беларусі напалову. Але нараджаліся дзеці: існаваў яшчэ даваенны закон аб забароне абортаў.

**УМОВЫ І АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦЫ.** У калгасах пераважала ручная праца. Машынна-трактар-

338

ныя станцыі (МТС) не спраўляліся са сваімі заданнямі. У Заходняй Беларусі яны больш займаліся калектывізацыяй, для чаго пры кожнай МТС да 1953 года існавалі спецыяльныя палітаддзелы. Колькасць электрыфікаваных гаспадарак не дасягала і 4 працэнтаў. Прымусіць людзей працаваць у калгасах маглі толькі старшыні-дзяржыморды. Іх падбору ўдзялялася вялікая ўвага. У год замянялася да 20 працэнтаў калгасных кіраўнікоў. Выхадцы з мясцовых сялян на ролю прыгнятальнікаў не падыходзілі, і іх паступова адціскалі прыезджыя.

**АГРАРНЫЯ ПРАГРАМЫ БАЛЬШАВІКОЎ.** З 1949 года па ініцыятыве Масквы тарфянікі беларускага Палесся пачалі засявацца кок-сагызам. Ствараліся цэлыя каўчукаводчыя калгасы. Кліматычныя ўмовы рабілі гэты занятак бессэнсоўным, але дзеля выканання партыйных заклікаў мясцовае кіраўніцтва ішло на відавочнае марнатраўства лепшых беларускіх зямель і чалавечай працы. Першы сакратар ЦК КП(б)Б Патолічаў прапанаваў у 1950 годзе доўгатэрміновую праграму асушэння балот БССР. Адначасова браўся курс на акультурванне калгасных земляў: зімой высякалася кустоўе, якое пакрыла за вайну каля 30 працэнтаў сенажацяў, вясной і восенню збіраліся па ворыву камені, засыпаліся акопы і бліндажы.

**ПРАКТЫКА ЗАКОПВАННЯ ГРОШАЙ У ЗЯМЛЮ.** За 1946--1951 гады калгасы БССР атрымалі ад дзяржавы каля мільярда рублёў, але так і не сталі прадукцыйнымі, нягледзячы на тое, што з 1952 года на дапамогу калгаснікам па збору ўраджаю сталі пасылацца гараджане. Дзяржаве даводзілася спісваць і запазычанасць, і нядоімкі.

339

## 30.5. Прамысловыя гіганты побач з жабрацтвам

**АДБУДОВА ПРАМЫСЛОВАСЦІ.** Энергамагутнасці і вытворчае абсталяванне ў прамысловасці Беларусі былі знішчаны больш чым на 90 працэнтаў. Па загаду з Масквы быў узяты курс на стварэнне ў БССР машынабудавання. Для таго прамысловае абсталяванне, атрыманае па рэпарацыйных пастаўках з Германіі, пакідалася ў Беларусі. У 1947 годзе распачаўся вытворчы працэс на Мінскім аўтазаводзе і велазаводзе. У 1950 годзе серыйная вытворчасць была наладжана на Мінскім трактарным заводзе. Будаўнікі і першыя рабочыя прамысловых гігантаў жылі ў палатках. Судовую адказнасць рабочых за прагулы сталінскі ўрад адмяніў толькі ў 1951 годзе. Сярод рабочых з вёскі назіраўся высокі траўматызм. Доля ручной працы ў прамысловасці БССР складала 60--70 працэнтаў. Невыносныя ўмовы працы і жыцця прымушалі многіх пакідаць прадпрыемствы. У адбудаванні прамысловасці і гарадоў выкарыстоўвалася каля 15 тысяч нямецкіх ваеннапалонных (1948 год). Прамысловасць мясцовага значэння заставалася ў заняпадзе. З-за поўнай залежнасці прамысловасці БССР ад фондавай (саюзнай) сыравіны яна працавала не на поўную магутнасць і ніколі не выконвала вызначаных Масквой планаў. Нават сталінскі рэжым не мог прымусіць саюзныя прадпрыемствы своечасова пастаўляць адно аднаму неабходныя дэталі, запчасткі і паўфабрыкаты.

**ПАСЛЯВАЕННЫ ПОБЫТ.** Больш 1,5 мільёна чалавек жыло пасля вайны ў зямлянках. Людзі мерлі ад голаду. Яшчэ ў 1947 годзе быў адзна-

340

чаны факт людаедства ў Камарынскім раёне Палескай вобласці. Не хапала вопраткі, солі, газы, запалак, мыла. І ў 1950 годзе ў кватэрах гараджан час ад часу гасла электрасвятло, а ў вёсцы не хапала звычайных газавых лямпаў. Інваліды вайны жабравалі і выміралі. Да ліпеня 1948 года яны не мелі ніякіх ільгот. Нястача стала крыніцай масавых захворванняў і эпідэмій: тыф, кароста, туберкулёз, малярыя, трыпер, сіфіліс. Дзяржаўная дапамога адзеннем і прадметамі харчавання не ратавала. Найбольш пацярпелі ад вайны ўсходнія вобласці. Іх жыхары хадзілі на заробкі да заходнебеларускіх аднаасобнікаў. Праўда, саюзны ўрад выдаў у 1946/47 фінансавым годзе сродкі на будаўніцтва дзвюх тысяч дамоў для інвалідаў і сем'яў загінуўшых. Але ўсяго Беларусь мела патрэбу яшчэ ў 75 тысячах дамоў. Нават у 1952 годзе 672 сям'і Мінска, Віцебска і Полацка туліліся ў зямлянках, хлявах і падвалах руін.

Вялікай напасцю для людзей сталі ваўкі, што распладзіліся за вайну. Драпежнікі не толькі выядалі цэлыя кашарні, упокат касілі коней, але і нападалі на дзяцей. За лета 1946 года па Беларусі было загрызена не меней 14 і паранена не меней 24 дзетак ад 2 да 9 гадоў. І пераважная большасць ахвяр прыпадала на Усходнюю Беларусь, шчодра палітую чалавечай крывёй. Для аблавы на ваўкоў ствараліся спецыяльныя брыгады.

**ЗМЕНЫ ДА ЛЕПШАГА.** З канца 1947 года адмяняліся карткі на продаж прадуктаў і прамысловых тавараў. Аднак і ў 1948 годзе гараджанам не хапала хлеба. Тавары, хоць і былі таннымі, але іх не хапала, як і грошай, каб іх набыць, асабліва ў калгаснікаў. Засуха 1951 года паставіла калгасную вёску БССР на мяжу голаду. Галоўнае, што тады прапала і бульба. Але

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

341

людзі ўпарта працавалі, спадзяваліся на лепшае і па загаду бальшавікоў час ад часу рапартавалі ў пісьмах Сталіну аб сваіх поспехах, яўных і ўяўных. З 1950 года ва ўжытак пачалі ўваходзіць халадзільнікі. Карыстаючыся перадвыбарнымі кампаніямі, гараджане дабіваліся лепшага асвятлення вуліц, адкрыцця новых маршрутаў гарадскога транспарту, будаўніцтва лазняў.

## ПАЛІТЫЧНЫЯ ІДЭАЛЫ ВОЛЬНАСЦІ БЕЛАРУСАЎ

### Замест заключэння

**ТРЫ МІФЫ ПРА БЕЛАРУСАЎ.** За беларускім народам замацавалася тры даволі негатыўныя ўяўленні. 1. Ён мае нізкую нацыянальную самасвядомасць. 2. Ён мала чым адрозніваецца ад рускіх і не бачыць сваёй будучыні па-за Расіяй. 3. Ён да таго скамунізаваны, што амаль кожнага беларуса можна лічыць камуністам. Такія ўяўленні небеспадстаўныя. Але ці не занадта спрошчаныя? Міжнародная грамадскасць ды і самі беларусы вельмі мала ведаюць пра ідэалы вольнасці, што складваліся на абшарах Беларускага краю за час двухсотгадовага панавання тут Расіі. Адсюль і сумненні ў жыццяздольнасці беларускага адраджэння. Але новая і навейшая гісторыя беларусаў -- гэта і ёсць гісторыя іх памкненняў да незалежнасці. У ёй можна вызначыць пяць перыядаў.

І. Першы з іх праходзіў пад сцягам ад-

342

наўлення страчанай дзяржаўнасці -- Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Ён характарызаваўся прапольскімі ілюзіямі. За няпоўныя сто гадоў расійскага панавання беларусы чатыры разы -- у 1794, 1812, 1831 і 1863 -- узнімаліся на безвыніковую барацьбу з царызмам. Праз марную надзею на вяртанне шляхецкай вольнасці прайшлі і літоўцы, і палякі. Тым не менш, адданасць народаў былой Рэчы Паспалітай ідэалам вольнасці прыспешыла адмену ў Расіі прыгоннага права.

II. На другім этапе ілюзіі прапольскія змяніліся на прарасійскія. Другі перыяд пачынаўся ад 80-х гадоў XIX стагоддзя, калі беларускія народнікі (арганізацыя "Гоман") вылучылі ідэю адміністрацыйна-культурнай аўтаноміі ў складзе Расійскай імперыі. Праз марныя надзеі на расійскую дэмакратыю прайшлі не толькі беларусы, але і нашы суседзі -- украінцы, палякі, літоўцы. Тым не менш, менавіта агульнасць ідэалаў парламентарызму і нацыянальнай аўтаноміі народаў Расіі, у тым ліку і рускага, дазволіла звергнуць царызм.

III. Трэці перыяд (канец 1915--1945) вылучаўся шматварыянтнасцю ідэалаў. Побач з захаваннем адданасці аўтаноміі з Расіяй бесперапынна ўзнікалі іншыя. І найперш -- ідэя поўнай незалежнасці Беларусі. Другой фундаментальнай ідэяй, якой беларусы прытрымліваліся ў першыя гады пасля распаду Расійскай імперыі, была ідэя федэралізму. Надзея на незалежнасць не спраўдзілася. І толькі скамунізаваныя беларусы пад Савецкай Расіяй змаглі ажыццявіць у нейкай ступені свае ідэалы федэралізму.

Увесь трэці перыяд увогуле прайшоў для беларусаў, літоўцаў, палякаў, украінцаў ды і рускіх пад знакам пошукаў і ажыццяўлення

343

ідэалаў нацыянальнай дзяржаўнасці, якія не маглі быць ідэнтычнымі, выклікалі канфлікты і непаразуменні. А гэтым карысталіся такія сацыяльна небяспечныя эксперыментатары, як камуністы і фашысты. І ўсё ж супадзенне ідэалаў антырасізму народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы дазволіла ім вызваліцца ад пагрозы фашысцкага заняволення.

IV. Чацвёрты этап у гісторыі ідэалаў вольнасці беларусаў (50--80-я гады) стаў самым змрочным. Нацыя знаходзілася ў каматозным стане. Палітычная апазіцыя не існавала. Выпраменьваць нацыянальныя ідэалы пасля Курапатаў не было каму. Пра незалежнасць марылі адзінкі, імёны якіх яшчэ не дастаткова вядомыя. І толькі ў беларускім замежжы ідэя незалежнасці Бацькаўшчыны зберагалася, напаўняла сэнсам жыццё палітычных выгнаннікаў. Яна вяла беларускую эміграцыю ў шэрагі змагароў за дэмакратыю, што рыхтавалі крах камунізму.

V. З сярэдзіны 80-х гадоў услед за гарбачоўскай лібералізацыяй пачынаецца пяты перыяд, перыяд узнаўлення і ажыццяўлення незалежніцкіх ідэалаў у Беларусі, якія, у адрозненне ад папярэдніх, спалучаюцца з ідэаламі інтэграцыі ў еўрапейскую супольнасць.

**КУДЫ ІДУЦЬ БЕЛАРУСЫ.** Вось ужо амаль 80 гадоў беларусы разам з іншымі народамі былой Расійскай імперыі пасля распаду царызму ідуць, здаецца, усляпую, невядома куды. А можа ўсё ж яны сталі на агульнаеўрапейскі шлях, што вядзе ад "уніі" імперскай праз незалежнасць да уніі дэмакратычнай?

**АД АЎТАРА**

На гэтым публікацыя ўрыўкаў з кнігі па ўзаемнай згодзе аўтара і рэдакцыі прыпыняецца.

344

Свет пабачыла 17 з 35 яе раздзелаў. Рэдакцыя выбрала тое, што палічыла цікавым і найбольш апрацаваным. Мне пашанцавала, бо не кожнае перыядычнае выданне ўзялося б друкаваць амаль на працягу года працу па гісторыі.

Друкаваўся першы варыянт кнігі, у шмат чым публіцыстычны. Пазней рукапіс быў яшчэ некалькі разоў перароблены. Не ўсё адразу ўдавалася. Не магу сцвярджаць, што ўсе хібы выпраўлены. Некаторых з іх я і зараз проста не бачу. Чытачы маглі б падказаць мне, каб захацелі. Аднак жадаючых было зусім мала. Алесь Каўка з Масквы ў сваім лісце вельмі слушна заўважыў: беларусы ў пачатку 1918 года рыхтаваліся не да захопу, а да ўзяцця ўлады, якая ім па праву належала. Бачыце, як глыбока бальшавікі ўбілі ў галаву аўтара стэрэатып, што ўладу можна толькі захопліваць. Часам падводзіла празмерная даверлівасць да матэрыялаў былога партыйнага архіва. Акрамя містыфікацыі складальнікі партыйных дакументаў дэманстравалі звычайную недасведчанасць, асабліва ў галіне культуры і навукі.

Наўрад ці ўзяўся б я за гэтую працу, каб не прафесар Адам Мальдзіс. Ён паверыў мне. Дарэчы, калега Генадзь Сагановіч таксама напісаў гісторыю Беларусі са старадаўніх часоў да канца XVIII стагоддзя. І калі пашчасціць, то нашы кніжкі выйдуць як дзве самастойныя часткі агульнай працы. Цяжка сказаць, калі гэта будзе. Спроба атрымаць грант у фондзе Сорас -- Беларусь не мела поспеху. План-праспект і пробны раздзел кнігі трапілі на рэцэнзію да старой прафесуры. Амаль на кожным радку тэксту стаялі пытальнікі...

З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# "БЕЛАРУСКАЯ АМЕРЫКА" ЛЕАНІДА ПРАНЧАКА

КНІГА Леаніда Пранчака "Беларуская Амерыка" фактычна знаёмая цікаўнаму чытачу. Варта згадаць многія публікацыі Леаніда Пранчака ў апошнія паўтара-два гады, як адразу раскрыецца абсяг "Беларускай Амерыкі". Ды ўсё ж сабраныя разам матэрыялы дапамагаюць больш яскрава ўявіць характар кнігі, мэты, якія ставіў перад сабою аўтар. Кампазіцыйна "Беларуская Амерыка" складаецца з трох раздзелаў. У першым ("Эмігранты -- асколкі Бацькаўшчыны...") сабраны інтэрв'ю, якія Л. Пранчак падрыхтаваў за час сваёй вандроўкі ў ЗША. Субяседнікі (і нават болей таго -- сааўтары) беларускага паэта-песенніка і журналіста -- пісьменнікі і мастакі, грамадскія дзеячы, дысідэнты, вучоныя... Другі раздзел ("...Дзякую за ліст, які прыносіць з сабою подых мае Бацькаўшчыны -- Беларусі...") -- перапіска, якая папярэднічала сустрэчам Л. Пранчака з яго будучымі субяседнікамі. Часам ліставанне ўспрымаецца як завершанае інтэрв'ю, толькі хіба што завочнае. І трэці, заключны раздзел ("Мы, амерыканцы беларускага паходжання...") -- збор дакументаў, якія выразна характарызуюць палітычную, грамадскую пазіцыю нашых замежных суайчыннікаў.

Мажліва, нехта заўважыць, што, маўляў, нічога складанага ў стварэнні кнігі падобнага роду няма. Склаў пытанні, уключыў дыктафон -- і засталося толькі занатаваць, зрабіць фотаздымкі. Вось і ў прадмове аўтар "Беларускай Амерыкі" заўважае: "Мае суразмоўцы -- паўнапраўныя аўтары кнігі, чые сведчанні, прызнанні яскрава і праўдзіва раскрываюць іх погляды і ўчынкі. Я імкнуўся па магчымасці захаваць лексіку, інтанацыю, настрой людзей, пакінуць жывыя галасы, жывы аповяд, падчас нават ігнаруючы правілы стылістыкі, граматыкі, умешваючыся як мага меней, дзеля таго каб захаваць дакументальнасць, каб адчуць "крохкую ауру беларускай Амерыкі". Ды толькі ўся гэтая лёгкасць -- хутчэй знешняя праява. Аўтар, наўмысна праігнараваўшы традыцыйную мастацкасць дакументальнай літаратуры, усю ўвагу засяродзіў на дакументальнасці фактаў і ўсіх іх адценнях. Пры гэтым Л. Пранчак, адкрываючы многія тэмы з жыцця амерыканскіх беларусаў, расказваючы пра іх шляхі ў эміграцыю, імкнецца праяўляць высокі такт, пэўнае разуменне, не пакідаючы за сабой права судзейскай ацэнкі. ("Для мяне непрымальная роля пракурора. Мне, пісьменніку, людзі цікавыя перш за ўсё самі па сабе як асобы, а не як носьбіты пэўнай ідэалогіі...").

Інтэрв'ю, якое адкрывае першы раздзел кнігі, -- гутарка Леаніда Пранчака з Язэпам Сажычам ("Я не вельмі пачуваюся называць сябе прэзідэнтам..."). Да нядаўняга часу імя гэтага чалавека было амаль што невядомым на Беларусі.

Героі кнігі паказваюць (нязмушана, сціпла, без лішняй рыторыкі) сябе беларусамі. Хутчэй -- Беларусамі (менавіта з вялікай літары). Вось і Язэп Сажыч, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, згадвае: "Мяне малога паслалі ў польскую школу. Палякі мне даводзілі, што я паляк, брат -- што я рускі. Толькі калі пасталеў, я зразумеў, што я -- беларус..." І другая важная рыса -- клопат нашых замежных суайчыннікаў пра лёс Бацькаўшчыны, іх жаданне быць карыснымі Беларусі. Таму і такое ўстойлівае жаданне пашыраць у свеце веданне пра яе. Жаданне захаваць і ў сабе беларускасць, перадаць яе дзецям, унукам, многім пакаленням настаўнікаў.

Цікавыя многія інтэрв'ю, гутаркі, таму што не абмінаюць у іх Леанід Пранчак і яго субяседнікі тэму моладзі. Яскравы прыклад -- сустрэча з сябрам Беларускага народнага фронту і яго прадстаўніком у ЗША Юркам Азаркам. ("Інжынер па прафесіі, палітык па прызванню, Юрка Азарка -- адукаваны, рэспектабельны амерыканец з гонарам называе сябе беларускім грамадскім дзеячам. Многія эмігранты ў яго асобе бачаць будучага лідэра беларускай дыяспары ў Амерыцы"). Адказваючы на адно з пытанняў аўтара кнігі, Юрка Азарка адзначае вельмі істотную акалічнасць жыцця беларускай эміграцыі: "Палітычныя сваркі нашых бацькоў адбілі ад беларускай справы моладзь. Нашы групоўкі -- "крывічы" і "зарубежнікі" -- далей адна ад адной, чым Амерыка ад Менска. Паміж імі цяпер няма ніякіх сувязей. А яны патрэбныя для будучыні. Па нашых адносінах тут мяркуюць пра нас на Беларусі. Мы не можам плённа працаваць, калі мы паасобку".

Гартаючы старонкі "Беларускай Амерыкі", чытаючы і перачытваючы матэрыялы, сабраныя пад адной вокладкай, спакваля прыходзіш да высновы, што Леанід Пранчак з дапамогай сваіх суразмоўцаў адолеў вялікую справу. Перад чытачом -- найбольш грунтоўны партрэт сучаснай беларускай эміграцыі ў ЗША. Дадайце да кнігі Пранчака выдадзенае пазалетась даследаванне Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША" (Мінск, "Беларусь", 1993) -- і ўжо новае пакаленне даследчыкаў беларускай эміграцыі можа сягаць на прыступку вышэй у плане будучых росшукаў. А гэта ці не найгалоўнейшая карысць ад усялякай ужо зробленай працы...

Дарэчы, карысць "Беларускай Амерыкі" з года ў год будзе ўзрастаць. Пройдзе час, і сабраны Пранчаком фактаграфічны матэрыял будзе вядомы ў лепшым выпадку толькі з кніг. А калі нешта важнае не занатавалі журналісты, літаратары, гісторыкі? А калі нечы архіў знік бясследна?.. Наўрад ці будуць руліцца пра беларускія прыватныя зборы амерыканскія бібліятэкі. Багацце ж кнігі "Беларуская Амерыка" яшчэ і ў тым, што аздоблена выданне мноствам цікавых чорна-белых і каляровых фотаздымкаў. Аўтар большасці іх -- вядомы фотажурналіст Анатоль Кляшчук. Акрамя гэтага ў кнізе выкарыстаны здымкі з архіваў Пятра Краўчанкі, Масея Сяднёва, Іны Кахаnоўскай, Івана Кульбеды, Івана Калмановіча, св. п. Сяргея Карніловіча, Анатоля Абрамчыка, Таццяны Антонавай, Таццяны Мархель, Марыі Міцкевіч, Міколы Скорыкава, Валянціны Трыгубовіч, Яўгена Лецкі, Івана Сцяпуры, Мікалая Амельчанкі, самога аўтара "Беларускай Амерыкі". Здзіўляе наклад кнігі Леаніда Пранчака: усяго толькі 3 000 асобнікаў. Хіба гэта тыраж для выдання, якое пашырае беларускія прасторы, робіць багацейшай гісторыю нашай Бацькаўшчыны?!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# НЕ АДДАЦЬ — СТРАЦІЦЬ НАЗАЎСЁДЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Мне заўсёды было цікава пазнаваць новае. Яшчэ ў школе вельмі зацікавіўся сталярнай справай, быў час захаплення авіямадэлізмам, рабіў ракеты, мадэлі параходаў. Граючы на балалайцы, стаў лаўрэатам музычнага конкурсу ў Гродне, дзе мне падаравалі фотаапарат, з'явілася новае захапленне, якое цягнецца і дагэтуль. Але заўсёды пераважала скульптура. Мне вельмі падабалася ляпіць аб'ёмныя работы, і аднойчы нехта падказаў, што недалёка ад дому ёсць закінуты цагляны завод, і там, калі пашукаць, можна знайсці гліну. І я знайшоў яе ў студні, дзе яна ляжала гадоў, мусіць, 40--50, перапрэўшая, добрая, вельмі прыдатная для працы, -- нешта найцудоўнейшае на свеце. Я з гэтай гліны потым ляпіў шмат гадоў. Што ляпіў? Помніце, у перакідных календарах былі фотаздымкі скульптур "Маці-Радзіма" ці "У космас"? Я тады яшчэ не мог прыдумаць уласнага, таму паўтараў іх, рабіў свае копіі. Гэта было цалкам самастойна, таксама ж самастойна, як я потым, на працягу свайго жыцця, авалодваў музычнымі інструментамі. А зараз мне вельмі захацелася навучыцца іграць на віяланчэлі. Два гады я аб гэтым марыў. Цяпер у мяне ў майстэрні стаіць віяланчэль, і па вечарах я ўжо іграю "Калыханку" Хрэннікава. Скончыў работу, у майстэрні -- цішыня, і вось тады я бяру ў рукі гэты багаты інструмент. Таксама ж я засвоіў для сябе фартэпіяна, акардэон, гітару, балалайку, цымбалы, а як пайду на пенсію, дык куплю сабе саксафон. А чаму не? Як нехта сказаў, галоўнае -- не задавальняць свае жаданні, галоўнае -- іх мець.

Нягледзячы на тое, што многія раілі мне займацца музыкай, я вырашыў паступаць у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, зараз -- акадэмію. Яшчэ школьнікам я цвёрда вызначыў для сябе, што скульптура -- гэта сапраўдная глыбіня, глыбіня стану, пачуццяў, думкі, бясконцая і непазнавальная. І калі я ўсё ж такі паступіў -- а адбылося гэта з другога заходу, -- паверце, я быў самым шчаслівым чалавекам на свеце. Вучыўся я добрасумленна і на год раней тэрміну скончыў інстытут, бо на працягу трэцяга-чацвёртага курсаў рабіў дыпломную работу, прычым, упершыню творчая работа студэнта рабілася не ў аўдыторыі. Гэта быў мемарыяльны комплекс "Дальва", пабудаваны ў Лагойскім раёне, які я стварыў за два летнія перыяды. Дарэчы, там было шмат дэталяў, адлітых з бронзы. Дык у мінулым годзе ўсё паздзіралі. Таксама ж як і невялічкі барэльеф на магіле



майго бацькі ў Смаргоні, які я некалі сам адліў, нават не з бронзы -- са сплаву нейкага, вырвалі з помніка і знеслі. Вар'яцтва ў найвышэйшай ступені. Мяркуем гэтым летам паставіць граніт, каб ужо зубамі не ўгрызці, можа так памяць захаваецца...

У час сваёй працы я ніколі не думаю, ці будзе створанае мною выстаўлена ў вялікай зале, ці гэта будзе радаваць мяне аднаго. Калі я дзень-другі не пабуду ў майстэрні, ува мне ўсё гарыць, рукі свярбяць, так хочацца зноў дакрануцца да гліны. Прычым, гэта вельмі рэдка акупляецца, але тую асалоду, якую я атрымліваю ад працы, нельга вымераць ніякімі грашыма. Вядома, у кожнага мастака сядзіць у душы жаданне быць знакамітым, хацелася б і прыбытак мець, і жыць добра, і твор свой у бронзу перавесці, але жыццё бярэ сваё, і таму я сёння шукаю для сябе справу, якая магла б даць мне нейкую капейку незалежнасці. Калі я вучыўся ў інстытуце і вывучаў творы класікаў марксізму-ленінізму, мне добра запомніліся словы Маркса, які сказаў, што пры камунізме не будзе мастакоў у чыстым выглядзе, а будуць людзі, якія разам з іншымі прафесіямі і справамі будуць займацца і мастацтвам. Сёння пра камунізм мы казаць не будзем, а вось што тычыцца мастацтва, дык так яно і атрымліваецца. Я сам да гэтага падышоў і зараз займаюся перапрацоўкай збажыны. Канешне ж, падсобная гаспадарка бярэ шмат часу, але без яе я сёння ўжо не змагу рабіць любімую справу. Самае галоўнае, як мне падаецца, каб такая пабочная праца не была супраць тваіго сэрца, а таксама дастаўляла нейкую, можа і меншую, але радасць.

Між іншым, для мяне менавіта такі ўхіл -- не выпадковы, і мне знаёмая сялянская работа. Я лічу, што наш час -- вельмі цікавы. Ён дае людзям новыя магчымасці, пра якія раней нельга было і марыць. Што зробіш, калі час цяжкі, тады ён і цікавы. Цяпер мы, мастакі, мяркуем з некаторымі фермерамі арганізаваць сваю фермерскую асацыяцыю і ўжо разам ісці далей. Хаця ў той жа час зараз ідзе гаворка аб адкрыцці карціннай галерэі ў нас у Гродне, і я сам прапанаваў сябе на пасаду дырэктара. Калі я гэта зрабіў, адзін з мастакоў запытаўся:

"Выбачайце, але мне незразумела, навошта вы гэта робіце?"

Адказ вельмі просты: я дапамагу іншым, але я дапамагу і самому сабе. У свой час амаль восем год я узначальваў гродзенскую абласную арганізацыю Саюза мастакоў. Мы выстаўляліся і ў Прыбалтыцы, і ў Ленінградзе, былі вельмі карысныя для нас абменныя паездкі. Так, тады даводзілася супрацоўнічаць і з выканкомамі, і з абкомамі партыі, даказваць, што выяўленчае мастацтва і культура патрэбны і камуністу, і беспартыйнаму. Часам ішло сапраўднае змаганне з чыноўнікамі, але мы мелі някепскі аўтарытэт сярод нашых кіруючых органаў, таму што нічога не выклянчвалі, не гаварылі бясконца аб тым, што ўсё кепска, дайце тое, дайце гэта -- мы проста рабілі сваю справу.

Многія зараз саромеюцца таго, што ў былыя часы малявалі Леніна ці ляпілі Сталіна. Калі я думаю пра гэта, дык успамінаю, як акадэмік Сахараў напісаў у сваім дзённіку, што ў свой час ён быў цалкам перакананы, што сацыялізм -- гэта самая вышэйшая ступень развіцця чалавецтва. Ведаеце, у свой час я па-сапраўднаму верыў у гэтую ідэалогію і памятаю, як некалі ў юнацтве абсалютна шчыра думаў: не дай Бог, каб я нарадзіўся ў Амерыцы! Мы ж ніколі не бачылі іншага жыцця і нават не ведалі, што яно можа быць іншым. Дык у чым мая віна? Што я памыляўся, што мяне так навучылі? Калі сёння дзіця ў дзіцячым садку выхоўваць з пушкай у руцэ, пастаянна ўнушаць яму, што чалавек -- гэта нішто і яго трэба забіваць, ён і вырасце забойцам. І чаму, калі так ужо адбылося, я буду гаварыць, што гэтага не было? Наадварот, калі я стаў старшынёй гродзенскага аддзялення Саюза мастакоў, я падаў заяву ў партыю, каб гаварыць з тымі ж кіруючымі камуністамі на роўных. А хто інакш стаў бы мяне слухаць, калі б я зайшоў у той жа абком? І ніякіх прывілей і раскошных кватэр я з гэтага не займеў, бо мастак сваю вартасць можа і павінен даказваць толькі сваімі творамі. Я гэта добра ведаю і таму, калі надышло маё саракагоддзе, зрабіў персанальную выставу, дзе паказаў больш за сотню твораў.

Быў у мяне таксама перыяд, калі я захапіўся работай з дрэвам, зрабіў цэлы шэраг скульптур, потым зацікавіўся мазаікай, пазней -- люстрамі, шклом. Ёсць мая люстра ў стаўбцоўскім Палацы культуры (зараз там размясціўся касцёл), аформіў калгасны дзіцячы садок -- музычны пакой там зараз выглядае, як Георгіеўская зала Крамля, бібліятэку, дзіцячы дом у Лідзе. Люстры гэтыя зіхацяць, як нявесты! А як цікава іх рабіць! Ствараеш каркас, усё разлічваеш, падвешваеш да столі, а потым пачынаеш прыстасоўваць шкляныя трубачкі-дэталі. А яны -- дзілінь-дзілінь, адна за адну чапляюцца, звіняць, нібы найпрыгажэйшая музыка атрымліваецца. Гэта тая ж самая скульптура, толькі ўвасобленая ў шкле. Уявіце сабе, як цікава старое памяшканне накшталт кляштара зрабіць сучасным, пры гэтым не парушыўшы стылю. Пасля люстраў я зацікавіўся керамікай...

Мне самому зараз падаецца, што ўсё маё жыццё было пастаянным эксперыментам, я заўсёды шукаў нешта новае, хацелася засвоіць, паспрабаваць усё, і гэта не ўскладняла жыццё, а наадварот, дапамагала. Дарэчы, я працую па трынаццаць гадзін у дзень, бо толькі так можна нешта паспець зрабіць. У сям'і да гэтага ўжо прывыклі, ды і жонка ў мяне вельмі мудрая жанчына. Аднойчы, калі ў мяне была юбілейная выстава і прыйшло шмат гасцей, адзін з іх запытаўся ў яе: "Мусіць, гэта вы яго натхняеце на такія творы?" На што яна адказала: "Ды не, проста я яму не перашкаджаю". І наогул я лічу, што сям'я -- гэта вялікая дыпламатыя, разуменне дзвюх асоб дзеля трэцяга. А колькі дзяцей праходзіць праз маю майстэрню! Я паказваю ім, як на ганчарным крузе падымаецца гліна, прымае нейкую пэўную форму, як атрымліваецца гатовы твор. Іншы раз, калі завязваецца добрая размова, я ім і на музычным інструменце нешта наўздагон сыграю. Ёсць і такія, хто першы раз прыйшоў да мяне ў майстэрню хлапчуком ці дзяўчынкай, а зараз ужо універсітэты скончылі і дагэтуль заходзяць. Сіл на гэта, канешне, трэба шмат, але адкуль яны бяруцца -- пра гэта лепш запытацца ў Бога.

З гадамі ўсё больш і больш задумваешся, спрабуючы зразумець сэнс жыцця чалавека на гэтай зямлі. Я лічу, што самае галоўнае ў існаванні асобы -- гэта максімальнае самавыяўленне. І яшчэ я ўпэўнены, што па-сапраўднаму паўнацэнным і шчаслівым чалавек на гэтым свеце будзе толькі тады, калі ён адчуў на сабе вялікую "хваробу" кахання. Тады сілы і энергіі хопіць на ўсё, і жыццё набудзе сапраўдны сэнс і прыгажосць...

**Размову запісала Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# КЛІКАЛА РОДНАЯ ЗЯМЛЯ

## З ПЕРАПІСКІ С. ГРАХОЎСКАГА З М. ЗАБЭЙДАМ-СУМІЦКІМ

*Прага, 26.6.*

Дарагі Сяргей Іванавіч!
Я так часта ў думках бываю з Вамі, што калі пачынаю пісаць, мне здаецца, што Вы ўсё гэта ўжэ ведаеце... Шчыра дзякую за віншаванне з 70-годдзем, якое прайшло больш шумна, чым я спадзяваўся. Ад чэшскага музычнага фонду нават ганаровую грамату атрымаў. Далей віншавалі і высока ацэньвалі маю мастацкую працу Саюз чэхаславацкіх кампазітараў, секцыя канцэртных мастакоў, грамафонная фірма "Супрафон", Сметанаў квартэт, украінская грамада і хор пры ёй... Адным словам, пісьмы, тэлеграмы (нават падаркі) ад знаёмых і незнаёмых з розных краін: з Англіі, Канады, Польшчы, Літвы, Латвіі і найбольш, зразумела, з роднай Беларусі. І радасна... і сумна, бо, мне здаецца, я гэтага не заслужыў. Зрабіў так мала ў параўнанні з тым, што хацеў бы зрабіць. Сваю "вялікую кнігу" я ўжэ не напішу.

Газэты таксама "распісалі": "Лідова демокраце", "Вечерні Прага", "Свободне слово" (у Празе), "Ніва" (у Польшчы), "ЛіМ" (у Мінску). Свой артыкул "Акрылены песнямі" Р.Р.Шырма нават сам і прачытаў мне. Малайчына ён!..

Была тут і ўнучка сястры кампазітара П.І.Чайкоўскага Сакалінская І. Была ў мяне. Вельмі ёй спадабалася інтэпрэтацыя рамансаў П.І.Чайкоўскага. Падаравала мне статуэтку кампазітара. Пражскае радыё перадавала мой канцэрт "Беларускія песні і рамансы ў выкананні Міхала Забэйды-Суміцкага".

Больш падрабязна гаварыў аб гэтым з Р.Р.Шырмам, які збіраўся памясціць матэр'ял у "ЛіМе". Асабліва прасіў яго, каб ён ад мяне ў "ЛіМе" падзякаваў усім знаёмым і незнаёмым суродзічам за іх добрыя пажаданні. А пастунова і я буду старацца адпісаць усім.

За тыдзень лячу ў Лугачовіцы спачатку падлячыцца, а потым выступіць з канцэртам. Як бачыце, спяваць не перастаю. Наперадзе ўжо маю 4 канцэрты. Шкада, што не пачуеце...

У нас насталі гарачыя дні. На сонцы да 35--40 градусаў. Ужэ цвітуць ліпы. Я "закаханы" ў іх водар. Люблю ўглядацца, як пчолкі збіраюць з іх цвету мядок, як гудуць... Шкада, што адцвілі сакуры і на іх красу трэба чакаць цэлы год. Для сямідзесятніка гэта вельмі доўга.

Ці ўжэ выздаравеў Караткевіч? Паслаў яму сваю плітку "Беларускія песні і рамансы". Пры аказіі запытайцеся, калі ласка, ці атрымаў. Калі не, буду пытаць на пошце, куды яна падзелася.

Бывайце здаровенькі. Шлю ўсім прывітанне і падзяку (абавязкова Семяжону). Пішыце!

26 г/м Прага выслала нашы песні ў маім выкананні.

Пакуль што бывайце здаровенькі. Мушу легчы. Абдымаю. Пішыце.

**Ваш М. ЗАБЭЙДА.**

Прага. 9.10.71.

Дарагі Сяргей Іванавіч!
Хоць Вы яшчэ, напэўна, на Каўказе, але на Ваш ліст, за які сардэчна дзякую, адказваю адразу, бо пісьмы ідуць марудна. А чакаў я на Ваша добрае слова вельмі. Перажываў балючую адзіноту, моцную дэпрэсію. Чатэры месяцы ніхто не адгукнуўся, не меў і друкаванага роднага слова. Як мог сябе адчуваць, зразумееце самі. Да таго яшчэ даведаўся, што ўсё, што наспяваў тут, на радыё, было ў 68--69 годзе знішчана: былі там творы і савецкіх кампазітараў -- Шастаковіча, Кабалеўскага, Хачатурана, Туранкова і інш. Перамог шавінізм, з якім ваюю ўсё сваё жыццё. Адным словам, жыву, "як гарох пры дарозе". Хто ідзе, той і скубне.

Нечакана парадавалі незнаёмыя суайчыннікі. Апрача таго пабываў на гастролях Ленінградскага драматычнага тэатра, які выступаў у Празе. Артысты не ігралі, а проста жылі на сцэне, памагалі і мне ажыць, адвесці душу.

Прыслалі раптам за тры месяцы і "Полымя", і "Маладосць". З хронікі даведаўся, што робяцца і беларускія плішкі.

У Лугачовіцах 9-га ліпеня меў вельмі паспяховы канцэрт, атрымаў ад слухачоў прыгожыя пісьмы. Але нядаўна меў канцэрт у Багданчы, і здавалася, што вось-вось страчу свядомасць. На шчасце, ніхто гэтага не заўважыў. Поспех быў, як звычайна. Выратавала добрая прыгатаванасць. І ўсё ж канчаюся, відаць. І так жыву зверх плана. У маладосці, калі хварэў сухотамі, дахтары казалі, што дажыву максімум да 50. А мне бяжыць 72. "Пора и честь знать".

Чакаю на Вашы вершы ў "Полымі". Чытаць Вас люблю.

Страўнік вельмі добра лечаць у Карлавых Варах -- ЧССР. Паспрабуйце дастаць пуцёўку. Па дарозе зможаце адведаць і пражскіх знаёмых. Калі дажыву, рад Вас сустрэну, і пагаворым...

Бывайце здаровенькія. Не забывайце! (Хоць чалавек -- "і нявольнік абставін").

Моцна абдымаю.

**М.ЗАБЭЙДА.**

**P.S.** У Рыгровым садзе бабіна лета. У сумныя хвіліны хаджу туды, каб палюбавацца васеннімі фарбамі і дзіцячымі шчырымі тварыкамі ды пажадаць ім добрае будучыні.

*Прага. 9.11.1972.*

Добры дзень,
дарагі Сяргей Іванавіч!
Вялікі дзякуй за мілыя словы, якія знайшоў у Вашым пісьме ад 5 г/м. Такіх слоў патрабую больш, чым раней, калі мог часцей спяваць і сваімі песнямі даваць людзям радасць. Цяпер і здароўя менш, і аказыі (нагод) для выступлення амаль няма. Настроі не тыя, што былі ў час Вашага візіту ў Прагу, а ўсё той самы. Калі пападуць пад руку мае куцыя ўспаміны (Белавежа N1 за 1965 г.) і калі будзеце мець вольную хвіліну (што амаль немагчыма ў сённяшнім жыцці), прачытайце там канец. Больш мяне зразумееце, ці, лепш кажучы, сітуацыю. Я ўжо Вам пісаў, што моцна хварэў. Думаў, што аддам Богу душу, а цела агню, але трохі паправіўся, толькі часта вяртаецца дэпрэсія, што мала зрабіў для Радзімы, для добрых людзей наогул. І мог бы рабіць, і хацеў бы, ды "проці ражна не папрэш", як казала калісьці мая матуля. (Вечны ёй спакой!). Стараюся не паддавацца прыгнечанасці. Стаўлю свае плітки (пласцінкі) і памалу паддаюся іх настрою, і тагды здаецца, што ўсё ж нешта добрае зрабіў. Успамінаю словы Пушкіна: "И долго буду тем любезен я народу, что чувства добрые я лирой пробуждал, что в мой жестокий век восславил я свободу и милость к падшим призывал".

Наогул люблю Пушкіна. Таму і Вашы вершы (ды і проза) мне вельмі падабаюцца. У часопісах вышукваю Вашы творы. (Праўда, ні "Полымя", ні "Маладосць" са снежня да мяне не даходзяць...) Чым далей жыву, тым больш пераконваюся, што яшчэ часта прыходзіцца ўспамінаць сказ Арыстоцеля (здаецца) "Homo homini lunus est". Колькі яшчэ патрэбна часу, каб чалавек чалавеку стаў сапраўдным братам, другам!

Вельмі радаваўся, як аславілі 80-годдзе Рыгора Раманавіча. Душою ў гэты дзень быў там, з Вамі. А калі б Рыгор Раманавіч прыслаў запросіны трохі раней, была б аказыя быць з Вамі і целам. А так паслаў яму пару радкоў ды пажадаў яшчэ доўгага-доўгага жыцця на карысць Радзіме і на радасць усім добрым людзям. (Гэта стараўся і я рабіць у жыцці).

Зіма была і ў нас вельмі непрыемная і нездаровая. Туманы, нізкія, гнятучыя хмары... Чакаю вясны, якую вельмі люблю.

Жадаю Вам апынуцца ва ўмовах, дзе не толькі знойдзеце адпачынак, здароўе, але і натхненне для творчай працы, ці то прозы, ці вершаў. І тое і другое чытаю заўсёды з вялікім захапленнем. "Пішыце, радуйце добрыя душы і будзьце шчаслівы!"

Моцна Вас абдымаю!

**Ваш М. ЗАБЭЙДА.**

*Прага. 28.10.70.*

Дарагі Сяргей Іванавіч!
Ужэ даўжэйшы час хаджу з думкамі пра Вас, і ў галаве ўжэ шмат Вам напісаў, а на паперу думкі нейк не кладуцца...

Шчыра дзякую за вершы. Чытаю з прыемнасцю (люблю іх аўтара) і за пісьмо з "Кіжамі" дзякую. Шкада, што іх ніколі не ўбачу...

"О бренности бытия" думаю мала. Радуюся кожнаму пражытаму дню, хоць ён часта бывае і сумны. Памятаю, што ў мае гады кожны новы дзень -- гэта падарунак.

Хаджу ў Рыгровы парк, дзе мы былі з Вамі. Гэтай восенню там было асабліва прыгожа. Першымі пачалі мяняць афарбоўку клёны (яны мне вельмі блізкія, бо маці калісьці пасылала нарваць кляновага лісту, калі пякла хлеб...). А клёнаў тут вельмі многа. А калі яны пазалаціліся, дык нават у хмурны дзень здавалася, што свеціць сонца (і ў наша ваконца). Потым пажаўцелі таполі, далей ясень, ліпы і нарэшце дубы, букі і інш. Адным словам, столькі фарбаў, што аж вочы разбягаюцца. Шкада, што я не маляр. Мог бы стварыць прыгожыя карціны. А песні мае? Ці якая астанецца ў сэрцы сяброў-суродзічаў?..

Дзякую за прывітанні Алене Васілевіч і Рыгору Раманавічу, які і сам мне напісаў. Таксама ўтамляецца і таму не зрабіў таго, што абяцаў. Бяда невялікая. У Рахманінава ёсць прыгожы раманс: "Проходит все, и нет к нему возврата".

У жыцці асабістым вялікіх перамен няма. Трохі горш сябе адчуваю, але ўсё яшчэ спяваю.

Бывайце здаровенькі. Не забывайце!
Хай Вам добра пішацца!
Шчырыя прывітанні Вашым блізкім і супольным знаёмым.

**Ваш М.ЗАБЭЙДА.**

*22.1.71.*

(на паштовам штэмпелі).

Дарагі Сяргей Іванавіч!
Шчыра Вам дзякую за добрыя пажаданні і ад душы жадаю Вам і Вашым блізкім усяго самага найлепшага ў 1971 годзе.

Вельмі мяне радуе, што не забываеце, хоць толку з мяне ўжо мала. Да майго хворага сэрца далучылася яшчэ нешта. Мусіць ішыас -- ні сесці, ні легчы, ні нагнуцца. Самому трудна адзецца. Баліць правая нага. Заўтра іду да доктара.

**Ваш М.ЗАБЭЙДА.**

**Працяг. Пачатак у № 7.**

## *Сяргею КАРТЭСУ — 60 ГАДОЎ*

Ён нарадзіўся ў Чылі, але лёс распарадзіўся так, што менавіта беларуская зямля дала магчымасць развіцца і праявіцца ў поўнай меры яго таленту.

Кампазітару Сяргею Картэсу спаўняецца 60 гадоў. Але яшчэ свежыя ў яго памяці тыя дні, калі разам з роднымі, выхадцамі з Расіі, прыехаў ён з Буэнас-Айрэса і паступіў у Мінску ў сярэднюю спецыяльную музычную школу. Было гэта ў канцы пяцідзесятых.

Любоў да музыкі прывіла Сяргею яго бабуля, у мінулым вядомая руская спявачка. Яна і давала хлопчыку першыя ўрокі ігры на фартэпіяна. Неўзабаве Сяргей стаў выступаць у якасці саліста-піяніста. Да гэтага часу адносяцца і першыя спробы музычнай творчасці.




Пазней Сяргей стаў вучнем аднаго з буйнейшых прадстаўнікоў аргенцінскай прафесійнай музычнай культуры кампазітара Фішэра. Пад яго кіраўніцтвам значна вырасла прафесійнае майстэрства пачынаючага піяніста, з'явіліся і поспехі ў галіне кампазіцыі.

Ужо ў Мінску Сяргей скончыў з залатым медалём музычную школу, а потым і Белдзяржкансерваторыю. Яго настаўнікамі былі праслаўленыя беларускія кампазітары М.Аладаў і А.Багатыроў. Наступным этапам удасканальвання музычнай адукацыі стала аспірантура.

З самага пачатку знаходжання на беларускай зямлі С.Картэса захапіла народная музыка. І таму першымі творамі маладога кампазітара сталі "Беларуская фантазія", "Варыяцыі на беларускую тэму". У сваёй творчасці Сяргей Картэс схіляецца да жанраў, заснаваных на сінтэзе музыкі і слова. Такая яго араторыя "Памяці паэта" на вершы Я.Купалы, вакальна-сімфанічная паэма на вершы Э.Межэлайціса "Попел", вакальныя цыклы на вершы А.Вярцінскага, У.Шэкспіра, Ф.Гарсія Лоркі, С.Маршака. На сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі адбылася і прэм'ера оперы С.Картэса "Джардана Бруна". Пастаноўка другой оперы кампазітара "Матухна Кураж" у свой час па палітычных меркаваннях была забаронена ў рэспубліцы, затое з поспехам выконвалася ў Каўнасе, Кішынёве, Якуцку.

Цяжка пералічыць створанае Сяргеем Картэсам за гады плённай творчай дзейнасці. Гэта і буйныя творы для аркестра беларускіх народных інструментаў, і камерна-інструментальныя творы, і музыка да шматлікіх драматычных спектакляў, кінафільмаў.

У апошнія гады Сяргей Альбертавіч Картэс узначальвае ДАВТ, з'яўляецца мастацкім кіраўніком опернай трупы. Адміністрацыйная работа, бясспрэчна, крыху адцягнула кампазітара ад творчасці, затое дала магчымасць праявіць сябе ў іншай якасці. Сёння Сяргей Альбертавіч разам з артыстамі рыхтуе выпуск новых спектакляў. Адзін з іх -- опера Ж.Бізэ "Кармэн". Упершыню на беларускай сцэне яна прагучыць на мове арыгінала і ў новай сцэнічнай рэдакцыі. Гэтую тэндэнцыю ў будучыні мяркуецца працягваць.

І ўсё ж таленавіты чалавек, якім бясспрэчна з'яўляецца Сяргей Картэс, не можа не тварыць, нават калі хранічна не хапае часу, калі ўся атмасфера нашага жыцця не садзейнічае натхненню. Музыка заўсёды прысутнічае ў душы кампазітара. І таму хутка прыхільнікі таленту Сяргея Картэса пазнаёмяцца з новым яго творам. Гэта будзе опера "Візіт дамы" па п'есе Фрыдрыха Дзюрэнмата. Паставіць яе ў тэатры ўзяўся вядомы беларускі рэжысёр Мікалай Пінігін.

**Некалькі апошніх гадоў С. Картэс з'яўляецца старшынёй праўлення таварыства "Радзіма".**

**З нагоды юбілею супрацоўнікі таварыства і газеты "Голас Радзімы" віншуюць кампазітара і жадаюць яму творчага плёну.**

## ВЕРНІСАЖЫ

# ...АД РУЧЧА ДА АКІЯНА

-- Талент, -- гаворыць Ілона Барадуліна, -- гэта як і вада. Ён -- ад ручча да акіяна, і такі рух яму наканаваны на ўсё жыццё. Таму і творчасць -- плынь, якая змывае ўсе напластаванні, усё неабавязкова прысутнае...

Выстава твораў Ілоны Барадулінай пад назваю: "Зіма. Японскія гравюры" прайшла ў канцэптуальнай аўтарскай галерэі "Брама", што па вуліцы Харужай, 31-а.

Такім чынам адбыўся працяг серыі выстаў Ілоны Барадулінай з Санкт-Пецярбурга, якую яна ўмоўна аб'ядноўвае назваю "Часіны фарбаў". Яе працы на вялізных лістах нагадваюць фрэскі. Мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн вось такія графічныя аркушы адносіць да жанру філасофскіх пластычных эсэ.

Шматлікія госці выставы, а сярод іх былі Васіль Быкаў, Валянцін Тарас, адзначылі арыгінальны талент мінчанкі па нараджэнню (дарэчы, дачкі нашага вядомага паэта Рыгора Барадуліна) пецярбургскай мастачкі Ілоны Барадулінай.

Мастацтва, як і "Брама", не ведае межаў, а толькі дапамагае гэтыя межы-граніцы -- адчыняць.

**Вераніка ПАНІЗЬНІК,**
**студэнтка 1-га курса факультэта журналістыкі БДУ.**

## ДАПАМАЖЫЦЕ БІБЛІЯТЭКАМ

Са зваротам "Дапамажыце нашым бібліятэкам" да інтэлігенцыі і прадпрымальнікаў краіны звярнуўся Беларускі фонд культуры. "Вельмі хочацца, каб кожная наша бібліятэка з'яўлялася не толькі месцам, дзе можна атрымаць інфармацыю па любому пытанню, але і цэнтрам нацыянальнага адраджэння", -- сказана ў звароце.

Як паведамілі ў Беларускім фондзе культуры, апошнім часам у бібліятэк не стала грошай на камплектаванне нацыянальных фондаў, як гэтага патрабуе "Закон аб мовах" і ўзросшая цікавасць чытачоў да нацыянальнай гісторыі і культуры нашага народа.

## СЛОВА ПАДЗЯКІ

# ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС І ЮНЕСКА

"Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" у пяці тамах ахоплівае лексіку 56-ці тэматычных груп.

Па ахопу лексіка-семантычных груп "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" яшчэ не мае аналагаў у славянскім мовазнаўстве.

Атлас — гэта вынік 20-гадовага вывучэння супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі слоўнікавага складу беларускіх гаворак. Ён уключае каля 2 000 лінгвістычных картаў, 200 000 слоўнікавых адзінак. Матэрыялам для выдання паслужылі каля 4 000 найменняў прадметаў, прыкмет, працэсаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, сабраных у 150 вёсках рэспублікі. Па кожнаму найменню або панаццю састаўлены асобныя карты.

Першы том выйшаў з друку ў 1993 годзе. Укладальнікі атласа асабліва дзякуюць Фонду фундаментальных даследаванняў, які прымае самы актыўны ўдзел у выданні атласа і па магчымасці дапамагае фінансавымі сродкамі.

Другі том "Сельская гаспадарка" налічвае 359 лінгвістычных картаў, на якіх картаграфавалася лексіка 15-ці тэматычных груп. Сюды адносяцца назвы нябесных свяціл, вадаёмаў, надвор'я, рэльефа мясцовасці, дарог, транспартных сродкаў, працэсаў апрацоўкі зямлі, жніва, малацьбы і іншых работ, якія звязаны з сельскай гаспадаркай. Другі том у складзе лінгвістычных картаў адлюстроўвае найбольш поўна народную наменклатуру сельскай гаспадаркі Беларусі. Як і першы, другі том укладзены на новым матэрыяле, сабраным непасрэдна ў палявых умовах.

Тэматычныя групы лексікі, якія звязаны з сельскай гаспадаркай, маюць старажытныя лексічныя пласты, што захаваліся ў сучасным стане беларускіх гаворак як рэлікты племяннога развіцця і сярэднявечча. Яны даюць важныя звесткі для гісторыі беларускай мовы, а таксама сведчаць пра каштоўную інфармацыю, якая знаходзіцца ў сінхронным (сучасным) стане беларускіх гаворак. Традыцыйная лексіка пацярпела страты ў сучасных умовах тэхналагічнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Аўтарскі калектыў і Фонд фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь у сувязі з фінансавымі цяжкасцямі, інфляцыяй звярнуўся за дапамогай у Камісію РБ па справах ЮНЕСКА, да пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ЮНЕСКА Ніны Мікалаеўны Мазай, да Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла РБ у Францыі.

Аўтарытэтнейшая арганізацыя, ЮНЕСКА ўважліва разгледзела нашу (аўтараў і фонду) просьбу і выдзеліла на выданне другога тома на перыяд з 1.01.1994 да 1.01.1995 года сем тысяч амерыканскіх долараў. Гэтыя сродкі дапамаглі разам з сабранымі добраахвотнымі ўзносамі ад арганізацый і асобных людзей нашай краіны і замежжа заключыць дагавор з Мінскай картаграфічнай фабрыкай на выданне 2-га тома атласа. Кошт выдання атласа склаў 63 512 869 рублёў. Згодна з дагаворам другі том Лексічнага атласа павінны выйсці з друку ў першым квартале 1995 года.

**Аўтарскі калектыў і ўсе супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, а таксама Фонд фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь вельмі ўдзячны сусветнай арганізацыі ЮНЕСКА за высокую ацэнку нашай працы.**

**Без дапамогі ЮНЕСКА выданне другога тома Лексічнага атласа нельга было б здзейсніць. Выданне было б спынена і, магчыма, назаўсёды.**

Грамадскасць Рэспублікі Беларусь лічыць, што выданне атласа мае выключна вялікае навуковае і культурнае значэнне не толькі ў маштабе рэспублікі, але і для ўсяго свету.



**Ва Уладзіміра ЗОРЫНА (на здымку) — незвычайнае хобі. У кватэры шматпавярховага дома ў Віцебску, дзе жыве, ён трымае дваццаць дзве птушкі, і ўсе яны пеўчыя.**

**Любоў гэтая перадалася Уладзіміру Максімавічу ў спадчыну. Яго дзед быў вялікім знатаком птушак і іх спеваў. Захапіўся птушкамі і Уладзімір Максімавіч. Калі пабываеш у яго кватэры і пачуеш песні яго гадаванцаў, міжволі заслухаешся.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

### АБНОВЫ

**Весела глядзела наша хата,**
**Поўная пяшчоты, дабраты:**
**З Латвіі прыехалі на свята**
**Два мае старэйшыя браты.**

**Дужыя, мяне на рукі бралі —**
**Мне было не больш гадоў пяці.**
**— Як там, вершы вывучыў! — пыталі.**
**— Го! То можна смела ў школу йсці!**

**З добрых там заробкаў панавезлі**
**Нам гасцінцаў розных і абноў.**
**Бацьку быццам промні ў вочы лезлі:**
**— Во дзе мне падмога ад сыноў!**

**Маці не хавала слёз шчаслівых,**
**Усю сям'ю сабраўшы ля стала:**
**— Дзеткі, ці даўно было, калі вы —**
**Свет няблізкі — ў школу ў кандалах![1]**

**Доўга, смеючыся, ўспаміналі,**
**Як тады казаў я:**
**— Пагляджу,**
**Ў новых чаравіках і ў касцюме**
**Ці пазнае наш сабака Жук!..**

**Хоць было гадоў мне значна болей**
**Потым, — мне абновы везлі зноў...**

**... Я ва ўдзячнай памяці ніколі**
**Усіх тых не пазношваю абноў!**

[1] Кандалы — саматробны абутак на драўлянай падэшве.

* * *

**Ты роднае зямлі**
**Паклонішся калі!**
**І продкам, што ў зямлі,**
**Паклонішся калі!**

**Іх душы, як з вакон,**
**З нябёс глядзяць спакон:**
**Калі ты аддасі**
**Айчыне свой паклон!**

**З яе крыніц — набраць**
**Паклонішся калі!**
**Сцяг годнасці падняць**
**Паклонішся калі!**

**Ці толькі ўжо тады,**
**Як дасць жыццё пад дых,**
**Паклонішся і ты**
**У родны кут святы!..**

* * *

**Ці змоўкне чайка**
**Майго адчаю!**
**Ці сціхне каня**
**Майго чакання! —**

**Я так змарыўся**
**Чакаць гадамі,**
**Я так стаміўся**
**Чакаць вякамі.**

**Чакаць вачамі,**
**Чакаць рукамі,**
**Чакаць губамі**
**Цябе, каханне!**

## РЭКАНСТРУКЦЫЯ СЯДЗІБЫ БУЙНІЦКАГА

Работы па ўзнаўленню сядзібы Ігнація Буйніцкага пачаліся ў вёсцы Празарокі Глыбоцкага раёна. Сродкі на рэканструкцыю выдзелены з дзяржаўнага бюджэту. Дом Буйніцкага, выдатнага асветніка, таленавітага акцёра і рэжысёра, заснавальніка першага беларускага тэатра, — наша нацыянальная спадчына. Менавіта тут, у Празароках, адбыліся прэм'еры многіх твораў нацыянальнай драматургіі, сцэнічныя інтэрпрэтацыі народных песень — "генеральныя рэпетыцыі" будучых работ Буйніцкага як рэжысёра-прафесіянала. Яго ранняй, "хатняй", творчасці будзе прысвечана экспазіцыя музея, які адкрыецца ў інтэр'еры адроджанай сядзібы.

## ЯКІМ ВЕТРАМ

Незвычайнае дрэва — веймутава сасна — выяўлена нядаўна ў Кругаўскім лясніцтве. Якім чынам яе насенне трапіла ў беларускія лясы! Вядома, што радзіма гэтага дрэва — Паўночная Амерыка, а ад звычайнай сасны яно адрозніваецца канфігурацыяй галінак і хвоі. Рэдкасны экземпляр рашэннем мясцовага райвыканкома бярэцца пад ахову і аб'яўлены помнікам прыроды.

## "СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ" — СУЧАСНІКАМ

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў Мінску адбылася прэзентацыя шэрагу выданняў серыі "Нашыя славутыя землякі", якія ўбачылі свет у выдавецтве "Навука і тэхніка" з дня яго ўтварэння.

Кнігі прадставіў прысутным дзеячам культуры, творчай інтэлігенцыі краіны намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва Зміцер Санько. Напісаныя ў займальнай форме, яны распавядаюць аб жыцці Ефрасінні Полацкай, Льва Сапегі, Кастуся Астрожскага, Тадэвуша Касцюшкі, Вацлава Ластоўскага, іншых дзеячаў мінулага.

Мэта выдання гэтых кніг — вяртанне з нябыту гістарычных постацей Бацькаўшчыны. Таму друкаванне "Нашых славутых землякоў" будзе працягвацца.

## СПОРТ

КІКБОКСІНГ. Усяго два з палавінаю раўнды спатрэбілася мінчаніну Ігару Шарапаву, каб выйграць бой у чатырохразовага чэмпіёна свету італьянца Бруна Кампіглі і стаць мацнейшым на планеце. Спаборніцтвы прайшлі ў беларускай сталіцы.

ШАХМАТЫ. Працягваюцца паўфінальныя матчы прэтэндэнтаў першынства свету па шахматах. У пары Г.Камскі (ЗША) — В.Салаў (Іспанія), здаецца, усё ясна: лік 5:1 на карысць першага. Цяпер для агульнай перамогі Г.Камскаму патрэбна набраць усяго паўачка.

Больш упарта ідзе барацьба паміж мінчанінам Б.Гельфандам і расіянінам А.Карпавым. Тут пакуль мінімальная перавага на баку А.Карпава — 3,5:2,5 ачка. Так што наш зямляк яшчэ можа папраравіць свае справы.

ФУТБОЛ. Каманда мінскага "Дынама" адправілася ў турнэ па краінах Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыкі. Беларускія футбалісты выйгралі ў гандураскага клуба "Маратон", звялі ўнічыю матч з алімпійскай зборнай гэтай краіны і прайгралі эквадорскай "Барселоне".

ВОЛЬНАЯ БАРАЦЬБА. 24—26 сакавіка ў Мінску пройдзе XXVI міжнародны турнір "Гран пры" на прызы трохразовага алімпійскага чэмпіёна і сямікратовага чэмпіёна свету Аляксандра Мядзведзя. Удзел у гэтых спаборніцтвах прымуць спартсмены з ЗША, Германіі, Турцыі, Францыі, Вялікабрытаніі, Ізраіля, Паўднёвай Карэі, Польшчы, Славакіі, Венгрыі і краін СНД.

ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА. Як вядома, чэмпіён Алімпіяды-80, сусветны рэкардсмен мінчанін Леанід Тараненка цяпер трэніруе жаночую зборную Індыі. Яго падапечныя абнавілі за апошні час амаль усе нацыянальныя рэкорды.

Марцін КОЎЗКІ

## САТЫРЫЧНЫЯ МІНІЯЦЮРЫ

**— Няма шчасця, — сказаў кот, адпусціўшы мыш, каб уратавацца ад сабакі.**

**"Нясу залатыя яйкі!" — абвясціла чорная курыца. "А ці выводзяцца з іх кураняткі!" — спыталася рабая.**

**О краіна разумнікаў, дзе кожны ведае дурнейшых за сябе! І краіна дурняў, дзе вераць, што дурных няма!**

**Падрахунак: трэба шмат чаго не ведаць, каб ведаць пра нешта шмат.**


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 142. Падпісана да друку 20. 2.1995 г.